

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (22), 1999 КРЫЖАЎЗВЫШЭННЕ

*«Новая евангелізацыя патрабуе сапраўдных сведкаў веры. Людзей, закаранелых у крыжы Хрыстовым і гатовых для яго прынесці ахвяру. Вось жа праўдзівае сведчанне пра жыццядайную моц крыжа дае той, хто ў яго імя скарыць у сабе грэх, эгаізм і ўсялякае зло, хто прагне наследаваць любові Хрыстовай да канца».*

*(З гамілії Святога Айца Яна Паўла II падчас Святой Літургіі ў г.Седльцы 10 06 1999)*

*Седльцы 10.06.99. Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек вітае Святога Айца ад імя беларускіх грэка-католікаў*



**9-10** чэрвеня беларускія грэка-католікі здзейснілі маштабную пілігрымку на зямлю падляшскіх уніятаў у Пратулін і ў Седльцы (Польшча), дзе мелі радасць сустрэчы і сумеснай малітвы разам са Святым Айцом Янам Паўлам II. Сваім візітам у Седльцы Рымскі Архірэй асабіста ўшанаваў Пратулінскіх мучанікаў і ўсіх уніятаў, якія цярпелі і загінулі абараняючы сваю веру.

«Вельмі каштоўным для нас было запрашэнне, зробленае біскупам Янам Новакам, на святую Імшу, якую адслужыў Ян Павел II у Седльцах. Хоць медыя пра гэта прамаўчалі, але сярод вызнаўцаў усходняга абраду былі таксама і мы»,— адзначыў архімандрыт а. Сяргей Гаек, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі.



# ГАМІЛІЯ

## Святога Айца Яна Паўла II

### падчас св. Літургіі ў гонар Пратулінскіх мучанікаў у Седльцах, 10.06.1999



***1. «Хто адлучыць нас ад любові Божай?» (Рым 8, 35).***

Толькі што мы чулі словы святога Паўла, з якімі ён звярнуўся да хрысціянаў у Рыме. Гэта ёсць вялікі гімн удзячнасці Богу за Ягоную любоў і дабрыню. Гэтая любоў знайшла свой пік і найдасканалае выяўленне ў Ісусе Хрысце. Таму як Бог нават уласнага Сына не пашкадаваў, але аддаў Яго за нас, каб мы мелі жыццё вечнае *(пар. Рым 8, 32)*. Злучаныя праз хрост з Хрыстом, мы з'яўляемся ўлюбёнымі і абранымі дзецьмі Бога. Гэтая пэўнасць мусіць быць для нас стымулам да вернага захавання пры Хрысце. Гэтую вернасць святы Павел разумее як паяднанне з Хрыстом у любові.

Дарагія Браты і Сёстры! Як жа пераканаўча гучаць гэтыя словы Апостала Народаў на падляшскай зямлі, якая дала бясстрашных сведкаў Хрыстовага Дабравешчання. Люд гэтае зямлі праз вякі даваў незлічоныя сведчанні веры ў Хрыста і вернасці Ягонай Царкве, асабліва ў выглядзе разнастайных выпрабаванняў і крывавых праследаванняў, а таксама цяжкіх праверак часу.

Вітаю ўсіх сабраных на гэтай святой Літургіі, увесь Народ Божы Падляшша разам з ягоным Пастырам біскупам Янам Віктарам, біскупамі на адпачынку Янам і Вацлавам, а таксама дапаможным біскупам Гэнрыкам. Рады прысутнасці біскупаў з Беларусі, Казахстану, Расеі і Украіны. Вітаю таксама біскупаў візантыйска-ўкраінскага абраду з Польшчы і Украіны. Асабліва вітаю архібіскупа мітрапаліта Перамышльска-Варшаўскага Яна Мартыняка, біскупа Уроцлаўска-Гданьскага Уладзіміра Юшчака і біскупа Любаміра Гузара з Львова, а таксама прыбылых з імі пілігрымаў. Перадаю прывітанне духавенству, асобам пасвячанага жыцця, выхаванцам Седлецкай духоўнай семінарыі, таксама і прадстаўнікам каталіцкіх рухаў, малітоўных і апостальскіх аб'яднанняў. Мае прывітанні пілігрымам з розных канцоў Польшчы, а таксама пілігрымам з суседняй Беларусі, Літвы, Украіны і Расеі.

У гэтую хвіліну ў маім сэрцы ажывае ўспамін пра ранейшыя сустрэчы з Царквой Седлецкай дыяцэзіі, асабліва падчас святкавання Тысячагоддзя Хросту Польшчы ў 1966 годзе ды юбілею 150-годдзя дыяцэзіі, калі я атрымаў магчымасць здзяйсняць Еўхарыстыю ў сапегавым Кодані, ля падножжа Маці Божай Каралевы Падляшша. З радасцю сёння стаю сярод вас і складаю падзяку Боскаму Провіду, што магу аддаць чэсць шанаваным рэліквіям Падляшскіх Мучанікаў. На іх у асаблівы спосаб споўніліся словы святога Паўла з сённяшняй літургіі: «Ні смерць, ні жыццё (...), ні іншае якое стварэнне не можа адлучыць нас ад любові Божай у Хрысце Ісусе, Госпадзе нашым» *(Рым 8, 38-39)*.



*Варшава, 11.06.1999. Царква айцоў базыльянаў. Мітрапаліт Перамышльска-Варшаўскі кір Ян Мартыняк падае Рымскаму Архірэю Яну Паўлу II для ўшанавання святыя рэлікеіі Падляшскіх мучанікаў*

***2. «Ойча Святы, захавай іх у імя Тваё, тых, якіх Ты Мне даў, каб яны былі адно, як і Мы » (Ян 17, 11).***

Гэтыя словы прамовіў Хрыстос напярэдадні сваіх пакутаў і смерці. У пэўнай ступені яны з'яўляюцца Ягоным запаветам. Вось ужо дзве тысячы гадоў ідзе Царква праз гісторыю з гэтым запаветам, з гэтай малітвай аб еднасці. Ёсць, аднак, пэўныя перыяды гісторыі, калі гэтая малітва становіцца асабліва актуальнай. У такім менавіта перыядзе жывем мы. Наколькі першае тысячагоддзе гісторыі Царквы ў цэлым было пазначанае еднасцю, дык ад пачатку другога тысячагоддзя прыйшлі падзелы — найперш на Усходзе, пазней на Захадзе. Амаль дзесяць стагоддзяў хрысціянства жыве падзеленае.

Гэта знайшло і знаходзіць сваё выяўленне ў Царкве, якая тысячу гадоў спаўняе сваё пасланніцтва на польскіх землях. У часы I Рэчы Паспалітай шырока разлеглыя польска-літоўска-рускія землі былі тэрыторыяй, на якой абедзве традыцыі — заходняя і ўсходняя — існавалі разам. У пэўнай ступені праяўляліся і на гэтых землях наступствы падзелу, які, як вядома, з'явіўся паміж Рымам і Візантыяй у першай палове XI стагоддзя. У пэўнай ступені таксама выспявала разуменне патрэбы адбудовы ед-



*Седльцы, 10.06.1999. Святая Літургія ў гонар Падляшскіх мучанікаў, падчас якой Рымскаму Архірэю саслужылі грэка-каталіцкія ерархі*

насці, асабліва пасля Фларэнцкага Сабору ў XV стагоддзі. Год 1596 звязаны з гістарычнай падзеяй так званай Берасцейскай Уніі. Ад гэтага часу на землях І Рэчы Паспалітай, асабліва на ўсходніх землях, павялічвалася колькасць епархіяў і парафіяў Грэка-Каталіцкай Царквы. Захоўваючы ўсходнюю традыцыю ў частцы літургіі, дысцыпліны і мовы, адначасова гэтыя хрысціяне заставаліся ў еднасці з Апостальскай Сталіцай.

Седлецкая дыяцэзія, у якой сёння мы знаходзімся,— а ў прыватнасці мясцовасць Пратулін — застаецца месцам асаблівага сведчання гэтага гістарычнага працэсу. Менавіта тут прынялі мучаніцкую смерць вызнаўцы Хрыста, якія належалі да Грэка-Каталіцкай Царквы, блаславёны Вінцэнт Леванюк і яго дванаццаць Паплечнікаў.

Тры гады таму, падчас іх беатыфікацыі на Плошчы Святога Пятра ў Рыме, я сказаў, што яны «далі сведчанне нязломнае вернасці Гаспадару вінаградніка. Не расчаравалі Яго, але, захоўваючы еднасць з Хрыстом, нібы парастак вінаграднае лазы, прынеслі чаканыя плады навяртання і святасці. Здолелі вытрываць нават цаною найвышэйшае ахвяры. Як верныя «слугі» Госпада, поўныя веры ў моц Ягонае ласкі, яны далі сведчанне сваёй прыналежнасці да Каталіцкай Царквы ў вернасці ўласнай ўсходняй традыцыі. Не пашкадаваўшы сябе, мучанікі з Пратуліна баранілі ня толькі святыню, перад якой прынялі смерць, але таксама і Царкву, якую Хрыстос даверыў апосталу Пятру. Тую Царкву, часткай якой пачуваліся як жывыя камяні» *(6.10.1996)*.


*Седльцы, 10.06.1999. Андрэй Мацко (Горадня) прыносіць у дар Святому Айцу ад беларускіх і ўкраінскіх грэка-каталікоў ікону Падляшскіх мучанікаў*

Мучанікі з Пратуліна баранілі Царкву, якая з'яўляецца вінаграднікам Госпада. Гэтаму вінаградніку яны заставаліся верныя аж да канца і не паддаліся націску гэтага свету, які іх за гэта зненавідзеў. У іх жыцці і смерці споўнілася просьба Хрыстова з малітвы першасвятарскай: «Я перадаў ім слова Твае, і свет зненавідзеў іх, бо яны не ад свету, як і Я не ад свету. Не прашу, каб Ты ўзяў іх ад свету, а каб асланіў іх ад ліхога. (...) Асвяці іх у праўдзе Тваёй: слова Тваё ёсць праўда. Як Ты паслаў Мяне ў свет, так і Я паслаў іх у свет; і за іх я прысвячаю Сябе, каб і яны былі асвечаныя праўдаю. *(Ян 17, 14-15, 17-19)*. Яны далі сведчанне сваёй вернасці Хрысту ў Ягонай святой Царкве. У свеце, у якім жылі, яны з адвагай імкнуліся праўдай і дабром перамагчы зло, якое шырылася, а любоўю хацелі пераадольваць ашалелую нянавісць. Так, як Хрыстос, які за іх у ахвяры пасвяціў самога сябе, каб былі асвячаныя ў праўдзе,— так і яны за вернасць праўдзе Хрыстовай і ў абароне еднасці Царквы склалі свае жыцці. Тыя простыя людзі, бацькі сямействаў, у крытычны момант пажадалі прыняць смерць, чым паддацца націскам, што супярэчылі з іхнім сумленнем. «Як соладка ёсць паміраць за веру»,— гэта былі апошнія іхнія словы.

Дзякуем ім за тое сведчанне, якое мусіць стацца спадчынай усёй Царквы ў Польшчы на трэцяе тысячагоддзе, што набліжаецца. Яны далі свой вялікі ўклад у пабудову еднасці. Хрыстовую просьбу да Бога Айца «захавай іх у Тваё імя, якое Ты Мне даў, каб так як і мы былі адно» яны споўнілі да канца праз вялікадушную ахвяру уласнага жыцця. Сваёй смерцю яны пацвердзілі адданасць Хрысту ў Каталіцкай Царкве ўсходняй традыцыі. Такі самы дух ажыўляў масы вернікаў візантыйска-украінскага абраду, біскупаў, духавенства і свецкіх, якія цягам 45 гадоў пераследу на сваёй бацькоўскай зямлі заставаліся ў вернасці Хрысту, захоўваючы сваю царкоўную тоеснасць. У тым сведчанні вернасць Хрысту пераплятаецца з вернасцю Царкве і становіцца службай еднасці.

***3. «Як Ты паслаў Мяне ў свет, так і Я паслаў іх у свет» (пар. Ян 17, 18).***

Мучанікі з Пратуліна даюць адносна свету сведчанне сваёй веры, нагадваючы нам, што Хрыстос заклікаў і паслаў усіх сваіх вучняў, каб праз стагоддзі, аж да канца дзён былі абвеснікамі і звестунамі надыходу Ягонага валадарства. Гэты паўсюдны заклік да сведчання пра Хрыста вельмі выразна нагадаў II Ватыканскі Сабор у Дэкрэце аб апостальстве свецкіх: «Сам (...) Госпад (...) запрашае нанова ўсіх свецкіх, каб з кожным днём што раз шчыльней з Ім ядналіся, а, лічачы Яго справу за сваю ўласную, запаляліся ў Ягоным збаўчым пасланніцтве» (п. 33). Гэтае саборнае запрашэнне з'яўляецца асабліва актуальным менавіта цяпер, напярэдадні набліжэння трэцяга тысячагоддзя. Вуснамі Айцоў Сабору скіроўвае яго Госпад ня толькі да біскупаў, духавенства, манахаў і манашак, але таксама і да ўсіх сваіх вучняў напрыканцы дваццатага стагоддзя. Сёння, звяртаючы ўвагу на прыклад трынаццаці мужоў з Пратуліна, у асаблівы спосаб скіроўвае яго да вас.

У наш час можа больш, чым у іншыя часы, ёсць патрэба аўтэнтычнага сведчання веры указанага жыццём свецкіх вучняў Хрыстовых — нявестаў і мужоў, маладых і старэйшых. Патрэба пераканаўчага сведчання вернасці Царкве і адказнасці за Царкву, якая на працягу дваццаці стагоддзяў нясе ўсім людзям і народам збаўленне і абвяшчае нязменную навуку Евангелля. Чалавецтва стаіць перад абліччам разнастайных цяжкасцяў, праблемаў і гвалтоўных зменаў, перажывае неаднаразовыя драматычныя ўзварушэнні і разрывы. У гэтым свеце шмат людзей, асабліва маладых, зведвае страты і раны, некаторыя робяцца ахвярай сектаў і рэлігійных вычварэнняў ці таксама маніпулявання праўдай. Іншыя паддаюцца розным формам зняволення. Шырацца пазіцыі эгаізму, несправядлівасці і адсутнасці спагадлівасці на патрэбы іншых людзей.

Супраць гэтых і шмат якіх іншых выклікаў сучаснасці стаіць Царква. Яна хоча паспяхова несці людзям дапамогу і для гэтага патрабуе заангажавання свецкіх вернікаў, якія пад кіраўніцтвам сваіх пастыраў будуць дзейсна браць удзел у Ягонай збаўчай місіі.

Працяг на стар. 9

# Крок да аднаўлення еднасці

Візіт Рымскага Архірэя ў Румынію стварыў атмасферу вялікага даверу і ўзаемапавагі,— сказаў у інтэрв'ю швейцарскаму рэлігійнаму агенцтву APIC архібіскуп Франчэска Піо Тамбурына, упаўнаважаны прадстаўнік Папы падчас пасяджэння міжцаркоўнай біскупскай Камісіі па пытаннях дыялогу між румынскімі грэка-католікамі і праваслаўнымі .

Утвораная ў кастрычніку 1998 году гэтая Камісія працавала 10 чэрвеня 1999 году, праз месяц пасля візіту Яна Паўла II у Бухарэст. Візіт Папы меў «прыміральны» эфект, лічыць архібіскуп Тамбурына, маючы на ўвазе апошнюю сустрэчу біскупаў двух Цэркваў. Ён таксама адзначыў, што на гэтай сустрэчы панавала «больш светлая атмасфера», чым на двух папярэдніх. Дарэчы, сустрэча адбывалася ў памяшканні праваслаўнага манастыра Рамэт, які месціцца ў пераважна грэка-каталіцкім рэгіёне Румыніі Альба-Юлія.

Сесія, якая адбылася 10 чэрвеня, распачалася з падвядзення вынікаў візіту Святога Айца. Усе біскупы пацвердзілі, што ён спрыяў прымірэнню паміж дзвюма Цэрквамі. «Праваслаўныя біскупы захапляліся духоўнай веліччу Яна Паўла II, а таксама ягонай простасцю і сціпласцю, якія асабліва выявіліся падчас хваробы»,— падкрэсліў ватыканскі архібіскуп. Франчэска Тамбурына таксама адзначыў, што праваслаўныя біскупы раздзялілі той энтузіязм, з якім румынскі народ сустракаў Папу, і ягонае прагненне да хрысціянскай еднасці.

Дыялог паміж дзвюма Цэрквамі застаецца вельмі «далікатнаю справаю»,— заўважыў архібіскуп Тамбурына, таму што ідзе гаворка пра рэстытуцыю маёмасці Грэка-Каталіцкай Царквы, якая была канфіскавана ў яе ў 1948 годзе і перададзена праваслаўным.

Гэтая праблема не ёсць пытаннем выключна матэрыяльнае справядлівасці, але і пытаннем пра пераход цэлых царкоўных грамадаў з адной канфесіі да іншай.

«Гэта сапраўдная праблема, якая вымагае дыялогу ў духу павагі да законаў экуменізму і адмовы з абодвух бакоў ад усіх спробаў празелітызму. Пачуцці вернікаў не павінны стаць зброяй у барацьбе за царкоўную маёмасць. Неабходны з'яўляецца свабоднае права на пераход да царкоўнай супольнасці паводле іхняга ўласнага выбару, вось жа і шляхі вырашэння праблемы належыць шукаць на ўзроўні мясцовых грамадаў. Кожны мусіць падумаць, што патрэбна зрабіць для таго, каб вернікі мелі ў распараджэнні такую колькасць храмаў, у якой ёсць патрэба»,— падкрэсліў ватыканскі прэлат.

Наступная сустрэча міжцаркоўнай камісіі запланавана на 4 лістапада 1999 году. Яна будзе праходзіць у рэзідэнцыі грэка-каталіцкіх біскупаў у Орадэа, на паўночным захадзе Румыніі.

Дарэчы, у бліжэйшы час Патрыярх Румынскай Праваслаўнай Царквы Тэактыст збіраецца ў Рым, каб «засведчыць Папе Рымскаму свае сяброўскія і братнія пачуцці».

# Беатыфікацыя дзяцей-сведкаў Фацімскага з'яўлення Маці Божай

***У Ватыкане 28 чэрвеня 1999 году афіцыйна была абвешчана беатыфікацыя Францішка і Жасінты Мартас, двух фацімскіх пастушкоў, якія мелі ласку бачыць з'яўленне Багародзіцы ў 1917 годзе.***

22 чэрвеня камісія кардыналаў і біскупаў-сябраў Кангрэгацыі абвяшчэння святых вызнала існаванне цуда, здзейсненага пры пасярэдніцтве гэтых двух дзяцей. Цуд здарыўся з партугалкай Марыяй Эміліяй Сантас, якая адужала ад паралюшу пасля малітоўнага звароту да іх. Аўтэнтычнасць гэтага цудоўнага ацалення была праверана спецыяльнай ватыканскай камісіяй на чале з прафесарам Рафаэла Картэзіні.

11-гадовы хлопчык Францішак і 9-гадовая дзяўчынка Жасінта сталі наймалодшымі блаславёнымі ў Каталіцкай Царкве.

13 траўня 1917 году трое бедных дзяцей з Фацімы — Жасінта і Францішак Мартас ды 13-гадовая Люсія Дос Сантас упершыню пабачылі цудоўнае аб'яўленне Дзевы Марыі. Яна заклікала дзяцей і ўсіх людзей да малітвы і пакаяння ды адзначыла важнасць для збаўлення чалавецтва звароту да Бога Расеі, якой пагражала бязбожніцтва. Двое меншых дзетак памерлі праз 2 гады пасля тых дзіўных падзеяў, а Люсія неўзабаве ўступіла ў манастыр, каб прысвяціць сябе жыццю ў малітве, удалечыні ад наплыву паломнікаў. Сёння ёй 92 гады.

# Балканскі крызіс – шанец для паглыблення супрацоўніцтва паміж праваслаўнымі і католікамі

Балканскі канфлікт дае праваслаўным і католікам шанец павялічыць узаемаразуменне і супрацоўніцтва, лічыць кардынал Ахіллес Сільвестрыні, Прэфект Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў.

У інтэрв'ю агенцтву SIR (орган італійскай канферэнцыі біскупаў) кардынал адзначыў: сітуацыя, якая склалася на Балканах, дазваляе сфармаваць «новыя, больш плённыя адносіны» паміж двума хрысціянскімі Цэрквамі ў гэтым рэгіёне. Кардынал Сільвестрыні выказаў надзею, што праваслаўныя і каталікі створаць «аб'яднаныя органы ў імя прымянення хрысціянскай сацыяльнай дактрыны і гуманітарнага развіцця». Дзейнасць гэтых органаў, лічыць кардынал, будзе спрыяць як адраджэнню мірнага грамадства, так і абвяшчэнню Евангелля. «Народы Усходняй і Цэнтральнай Еўропы патрабуюць дэмакратычнага грамадства, дзе выконваліся б правы чалавека,— заявіў кардынал Сільвестрыні.— Гэтая неабходнасць з'яўляецца галоўным выклікам» хрысціянскаму супрацоўніцтву.

# На Папялец 2000 году Ватыкан рэабілітуе чэшскага рэфарматара Яна Гуса

Сярод юбілейных прыгатаванняў з боку Каталіцкай Царквы важнае месца займае перагляд пэўных момантаў сваёй гісторыі. Як сказаў Ян Павел II, Царква рыхтуецца зверыць сумленне і прасіць прабачэння за злыя ўчынкі, здзейсненыя яе дзецьмі ў мінулым. Гэта азначае, у прыватнасці, рэабілітацыю з тэалагічнага пункту гледжання асобных вядомых дзеячаў, якія былі асуджаны і загінулі праз абвінавачванне ў ерасі.

Адна з такіх постацяў — чэшскі рэфарматар Ян Гус, які быў спалены за ерась на вогнішчы ў 1415 годзе. Адносна яго Ватыкан заявіў, што ў будучым годзе гэты выдатны дзеяч эпохі еўрапейскага адраджэння будзе афіцыйна рэабілітаваны Каталіцкай Царквою. Для гэтай падзеі Ян Павел II рыхтуе новую дэкларацыю пра асобу Яна Гуса, у аснову якой будуць пакладзеныя аб'ектыўныя навуковыя даследаванні. Яшчэ напрыканцы гэтага году, у сярэдзіне снежня, у Рыме пройдзе міжнародны сімпозіюм пра асобу і тэалагічныя погляды Яна Гуса. Даніэль Герман, прэс-сакратар Канферэнцыі чэшскіх каталіцкіх біскупаў абвясціў пра гэта нядаўна ў Празе. Ён таксама паведаміў, што ў сімпозіюме возьме ўдзел прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел.

6 ліпеня, дзень смерці Яна Гуса, пачынаючы з 1990 году, стаў памятнай датай у Чэхіі. Ён адзначаецца як на рэлігійным, так і на нацыянальным узроўні. Менавіта тады, падчас свайго першага візіту ў Чэхію ў 1990 годзе, Ян Павел II аддаў пашану багемскаму рэфарматару, колішняму рэктару Пражскага універсітэту.

У чэрвені 1993 году чэшскія біскупы стварылі Экуменічную камісію, якая складалася з гісторыкаў і багасловаў, упаўнаважаных даць новую ацэнку ролі Яна Гуса.

У снежні 1995 году французскі кардынал Ражэ Этчэгерэй паведаміў, што працэсы Яна Гуса і фларэнцкага манаха Джыралама Саванаролы, таксама спаленага пасля суда інквізіцыі, хутка будуць перагледжаныя Рымам. Саванарола быў рэабілітаваны ў мінулым годзе, калі мінула 500 гадоў з дня ягонай смерці. Тады ж было абвешчана пра пачатак працэсу ягонай беатыфікацыі.

Датай рэабілітацыі Яна Гуса, найверагодней, стане Папяльцовая серада 2000 году — у лацінскай традыцыі першы дзень Вялікага посту, дзень сімвалічнага пасыпання попелам галавы на знак пакаяння.

# 60-гадовы юбілей уладыкі Яна Мартыняка

7 ліпеня ў свята Нараджэння св. Яна Хрысціцеля (паводле старога стылю) мітрапаліт Перамышльска-Варшаўскі Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы кір Ян Мартыняк адзначаў Дзень Анёла. У гэты дзень уся мітраполія (архіепархія Перамышльска-Варшаўская і епархія Уроцлаўска-Гданьская) у рамках архіерэйскай Літургіі ў катэдральным саборы ў Перамышлі святкавала таксама 60-годдзе Уладыкі (нар. 20.06.1939).

Уладыка Мітрапаліт Ян з'яўляецца вялікімі Сябрам нашае Царквы. З нагоды 60-гадовага юбілею шлем уладыку Яну найлепшыя пажаданні: *іс пала эты Дэспата — на многія леты, Уладыка!*

# Найдаўжэйшы пастырскі візіт Яна Паўла II

***З 5 чэрвеня з 12-дзённым пастырскім візітам у Польшчы знаходзіўся Папа Ян Павел II. Гэтая паездка Святога Айца, 87-ая па ліку,— найдаўжэйшая з усіх паездак, якія ён здзейсніў падчас свайго пантыфікату. Гэтым разам Рымскі Архірэй наведаў больш за 40 парафіяў у 20 гарадах краіны.***

На пачатку падарожжа планавалася, што Папа адслужыць 11 літургіяў, узначаліць 2 цырымоніі беатыфікацыі і 1 канізацыю, 30 разоў выступіць са зваротамі і казаннямі, у тым ліку перад дэпутатамі Сейму, аднак пагаршэнне здароўя трохі змяніла гэтыя планы. Дэвізам паездкі сталі словы «Бог ёсць Любоў» — Ян Павел II увесь час падкрэсліваў неабходнасць прымірэння і аслаблення ўнутранага напружання ў Польшчы, якая перажывае пераход ад камуністычнай дыктатуры да дэмакратыі і рынкавай эканомікі. Паездка была вельмі насычанай і змястоўнай, таму прывядзем толькі самыя цікавыя моманты.

На сустрэчы з навукоўцамі 7 чэрвеня ў Торуні Папа выказаў сваю пашану да постаці Мікалая Каперніка — выдатнага сярэднявечнага астранома, які паходзіў з гэтага гораду. Дзейнасць Каперніка, сказаў Рымскі Архірэй, стала выяўленнем «захаплення перад Творцам за створаны Ім свет і за сілу чалавечага розуму». Сваім адкрыццём, што Зямля і іншыя планеты Сонечнай сістэмы абяртаюцца вакол Сонца, Капернік даў моцны штуршок развіццю навукі. Але, нагадаў Папа, нямала навукоўцаў скарысталі гэтае адкрыццё як падставу для «процістаўлення веры і розуму». Ян Павел II асПрэчыў гэтае «памылковае ўяўленне» і падкрэсліў, што істотным з'яўляецца «адкрытасць да прымірэння веры і розуму», каб не зводзіць рэлігію да ўзроўню міфаў або забабонаў.

Падчас першых чатырох дзён свайго візіту Ян Павел II адслужыў 4 імшы і правёў адну беатыфікацыю, двойчы ўзначальваў службу ў свята Найсвяцейшага Сэрца Ісуса, выступіў перад больш чым 200 рэктарамі вышэйшых навучальных установаў Польшчы, выбітнымі навукоўцамі, выкладчыкамі і дзеячамі культуры, а таксама асвяціў новую базіліку ў гонар Найсвяцейшай Багародзіцы ў Ліхеню, якая можа змясціць 250 тысячаў вернікаў. Гэты храм стаў найвялікшым у Польшчы і 11 па велічыні ва ўсім свеце. У свой адзіны падчас візіту дзень адпачынку — 9 чэрвеня — Папа выказаў жаданне наведаць звычайную сельскую сям'ю.

Для католікаў усходняга абраду асабліва памятным стаў дзень 10 чэрвеня 1999 году. Гэты дзень Рымскі Архірэй прысвяціў менавіта ім. У першай палове дня ў Седльцах ён адслужыў Літургію пад адкрытым небам у саслужэнні мітрапаліта Яна Мартыняка, правячага архірэя Перамышльска-Варшаўскай архіепархіі УГКЦ і некалькіх грэка-каталіцкіх біскупаў. Падчас набажэнства, на якім прысутнічала больш за 450 тысячаў вернікаў абодвух абрадаў з Польшчы, Украіны, Беларусі, Расеі і Казахстану, гучалі лацінскія і візантыйскія спевы. Згадаўшы пра 13 Пратулінскіх мучанікаў (якім была прысвечана Літургія) і іх геройскі чын, Святы Айцец падкрэсліў важную ролю свецкіх вернікаў у справе евангелізацыі і царкоўнага служэння.

У другой палове дня Ян Павел II адведаў Драгічынь, дзе жыве шмат праваслаўных і пратэстантаў. Рымскі Архірэй узначаліў тут экуменічнае набажэнства, на якім у 150-тысячнай грамадзе разам маліліся католікі, праваслаўныя, лютаране і прадстаўнікі іншых веравызнанняў (нават мясцовыя татары-мусульмане) з Польшчы, Украіны, Беларусі, Літвы, Расеі і Казахстану. Ян Павел II заклікаў хрысціянаў розных канфесіяў «усвядоміць памылкі мінулага і на парозе трэцяга тысячагоддзя адкінуць тое, што нас размяжоўвае».

11 чэрвеня Святы Айцец наведаў базыльянскі манастыр і царкву Успення Багародзіцы ў Варшаве. Сам факт візіту Папы ў гэтую грэка-каталіцкую святыню, дзе сёння захоўваецца абраз і частка святых рэліквіяў уніяцкіх мучанікаў з Пратуліна, ягонае знаходжанне сярод манахаў-базыльянаў і сустрэча з грэка-каталіцкімі біскупамі, засведчылі вялікую павагу Рымскага Архірэя да Царквы ўсходняй традыцыі, ягоную пастырскую любоў і высокі хрысціянскі дух.

13 чэрвеня ў Варшаве Святы Айцец беатыфікаваў 108 мучанікаў і сведкаў веры часоў II Сусветнай вайны. Сярод гэтых Слугаў Божых 3 біскупы, 52 дыяцэзіяльныя святары, 26 святароў з розных манаскіх законаў, 3 клерыкі, 7 братоў манахаў, 8 манашак і 9 свецкіх. У той жа дзень Ян Павел II залічыў да блаславёных сястру Рэгіну Протман (1552-1613) — заснавальніцу манаскай кангрэгацыі, сябры якой клапоцяцца пра хворых, і Эдмунда Баяноўскага (1814—1871) — каталіцкага педагога, які прысвяціў сябе служэнню бедным дзецям. 16 чэрвеня Папа, не зважаючы на кепскае самапачуванне (папярэдні дзень ён правёў у ложку з-за грыпу), узначаліў урачыстую цырымонію ў м. Стары Сонч (каля Кракава), на якой залічыў да спісу святых блаславёную Кунегунду-Кінгу — вянгерскую прынцэсу, якая стала жонкай польскага караля Баляслава. Кінга праслаўлялася сваімі ахвяраваннямі на аднаўленне зруйнаваных татарамі храмаў і манастыроў. У 1279 г., пасля смерці сужонка, яна прыняла манаскі постryг. На цырымоніі кананізацыі прысутнічала шэраг выбітных палітыкаў з краінаў Усходняй Еўропы: прэм'ер-міністр Польшчы Ежы Бузэк, прэзідэнт Венгрыі Арпад Гонч і прэм'ер-міністр Славакіі Мікулаш Дзурында. Увечары Папа накіраваўся ў Вадовіцы — месца ля Кракава, дзе ён нарадзіўся, быў ахрышчаны, правёў дзяцінства і юнацтва.

17 чэрвеня закончыўся двухтыднёвы пастырскі візіт у Польшчу Папы Яна Паўла II. У гэты дзень ён прыватна маліўся ў капліцы св. Станіслава ў Вавельскім саборы Кракава, дзе ён быў рукапакладзены на святара ды біскупа і прызначаны архібіскупам Кракаўскім. Пасля Імшы Святы Айцец наведаў магілкі, на якіх пахаваны ягоныя бацькі і старэйшы брат. На развітанне са сваёй Бацькаўшчынай Ян Павел II наведаў святыню Маці Божай у Чэнстахове.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (API), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (KAI) і іншых прэсавых крыніцаў.*

# 50-годдзе Грэка-Каталіцкай Царквы ў Аўстраліі

10-12 ліпеня ў Аўстраліі адбыліся ўрачыстасці з нагоды 50-й гадавіны заснавання Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы на гэтым кантыненце. Першым грэка-каталіцкім святаром, які ў 1949 годзе прыехаў у Аўстралію апекавацца вернікамі, быў а. Пятро Смаль. Тады рыма-каталіцкі архібіскуп Мельбурну Даніэль Манікс гасцінна сустрэў новапрыбылых грэка-каталіцкіх вернікаў і запрасіў адпраўляць Службы Божыя ў рыма-каталіцкіх храмах аж да часу, пакуль не пабудуюць уласныя святыні. Сведчаннем гэтага шматгадовага хрысціянскага супрацоўніцтва каталікоў лацінскага і візантыйскага абрадаў на аўстралійскім кантыненце стала юбілейная выстава ў епархіяльным музеі ГКЦ «Разнастайнасць у абрадах, еднасць у веры».

Урачыстасці распачаліся 10 ліпеня ў грэка-каталіцкім саборы св. Пятра і Паўла ў Паўночным Мельбурне, на якія спецыяльна прыехаў з Украіны ўладыка Любамір Гузар, біскуп-памочнік зверхніка УГКЦ кардынала Івана Любачыўскага. А 12 ліпеня памятная святочная Літургія ў візантыйскім абрадзе была адпраўлена мясцовым ардынарыем Пятром Стасюком у рыма-каталіцкім катэдральным храме св. Патрыка, што ва Усходнім Мельбурне. Ля алтара поруч з грэка-каталіцкімі ўладыкамі Пятром Стасюком, Любамірам Гузарам, Васілём Лостэнам і Міхайлам Віўчарам, што прыбылі з ЗША, саслужылі рыма-каталіцкія архібіскупы з Адэлаіды, Брызбэна і Перта, а таксама 25 рыма-каталіцкіх біскупаў з усёй Аўстраліі. На Літургіі прысутнічаў таксама д-р Джордж Пэл, рыма-каталіцкі архібіскуп Мельбурну.

Як адзначыў у сваім казанні ўладыка Гузар, «мы мусім усведамляць духоўнае багацце, якое прывезлі з сабою», а тая «вялікая колькасць рыма-каталіцкіх біскупаў, нават з найбольш аддаленых тэрыторыяў Аўстраліі, сведчыць пра вялікую павагу» да грэка-каталіцкіх грамадаў аўстралійскай епархіі.

# Малітва за Беларусь у Амстэрдаме

22-23 траўня 1999 году ў Амстэрдаме адбыўся III Міжнародны Дзень Малітвы, арганізаваны пад патранатам біскупа дыяцэзіі Гаарлем (да яе належыць Амстэрдам) у санктуарыуме Маці Божай Уладаркі Усіх Народаў.

Падчас Міжнароднага Дня Малітвы, у якім бралі ўдзел каля 15 000 вернікаў, якія прыехалі з розных краінаў свету, былі таксама і прадстаўнікі шэрагу Усходніх Каталіцкіх Цэркваў. У праграме малітоўнага спаткання асобнае месца было прысвечана малітве за Беларусь.

Для ўдзельнікаў спаткання з адмысловым выкладам на тэму марыйнай пабожнасці ў Беларусі выступіў архімандрыт Сяргей Гаек — Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі.

# Дакрананне да краю вопраткі



*Дарагія вернікі, якія прыбылі з Беларусі! З вялікай любоўю вітаю вас і запэўніваю ў маёй малітве за вас, за вашыя сем'і і вашу Радзіму.*



*Няхай Бог ахоўвае вас і вашыя суполкі праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі і Святых Заступнікаў вашай улюбёнай нацыі, да якой я накіроўваю сваю сардэчную думку.*

*Ян Павел II, Седльцы, 10.06. 1999*

Наша вялікая сям'я, паводле ласкі Госпада Ісуса, удзельнічала ў пілігрымцы беларускіх грэка-католікаў на сустрэчу са Святым Айцом Янам Паўлам II у Седльцах, што ў Польшчы, якую ён наведаў з пастырскім візітам у чэрвені гэтага году. Я хачу апісаць свае ўражанні пра нашае падарожжа.

...Пра пілігрымку ў Польшчу мы даведаліся менш за месяц да яе пачатку, у сярэдзіне траўня гэтага году. Мы адразу ж пачалі рыхтаваць замежныя пашпарты. Здавалася, за два тыдні зрабіць іх было немагчыма. Яшчэ адной, і даволі вялікай, перашкодай на гэтым шляху магла стаць раптам узніклая ў школе эпідэмія паратыту (свінкі). Вялікая колькасць вучняў тады захварэла, у тым ліку і мой сусед па парце. Для няверуючага чалавека нашая пілігрымка здалася б ужо немагчымай. Але мы не гублялі надзеі і верылі, што Госпад Бог нам дапаможа ажыццявіць нашую мару.

Усё менш часу заставалася да падарожжа. Госпад Бог Усемагутны — Ён пачуў нашыя малітвы. Дзякуючы Яму, ніводзін з нас цудам не захварэў. Таксама нейкім цудам нашыя пашпарты былі зробленыя за два тыдні, калі ў іншых людзей гэты працэс займае некалькі месяцаў.

...Вось мы і на шляху да Седльцаў, аднаго з гарадоў, якія наведае Святы Айцец. У першы дзень падарожжа нашая група пабывала ў вёсцы Пратулін, дзе адбылася ўрачыстая Літургія на ўкраінскай мове і акафіст на беларускай, прысвечаныя ўніяцкім мучанікам, што загінулі на гэтай зямлі.

На наступны дзень мы былі ўжо ў Седльцах. Горад быў упрыгожаны да візіту Біскупа Рыму: на вуліцах луналі сцяжкі бела-жоўтага і бела-блакітнага колераў (колеры сцягоў Ватыкану), на вокнах дамоў жыхары прымацоўвалі плакаты з партрэтамі Святога Айца. Група грэка-католікаў з Беларусі, у якой мы былі, тым часам набліжалася да пляцу, дзе хутка адбудзецца Святая Імша. Нас вельмі ўразіла вялікая колькасць вернікаў на гэтай плошчы, якія махалі сцяжкамі і віталі свайго Пастыра воклічамі і спевамі.

Некалькі гадзінаў чакання для мяне тады праляцелі нібы некалькі хвілінаў. Паказаліся верталёты. Людзі яшчэ гучней пачалі клікаць: *«Ciebie czekamy!»* З-за павароту спачатку паказаліся паліцэйскія машыны, фотарэпарцёры, а потым...

...Вось Ён, Ян Павел II! Святы Айцец, Біскуп Рыму, Наступнік святога апостала Пятра, якому Ісус Хрыстос даручыў Сваю Царкву!.. Ён нагадвае нейкага анёла, які сышоў на зямлю! У гэтую хвіліну стала зразумела, што такія цяжкасці былі дадзеныя нам Богам не дарма. Калі глядзіш на Папу, калі чуеш воклічы: *«Ciebie kochamy!»*, сэрца перапаўняецца радасцю, якую цяжка выказаць на аркушы паперы.

Хутка Святы Айцец, ахінуты чырвонай мантыяй, у атачэнні кардыналаў, біскупаў розных абрадаў і з розных краінаў Усходняй Еўропы, пачаў урачыстую Святую Імшу для паўмільёну вернікаў. Уразіла тая цішыня, якая ўсталёўвалася ў шматлюдным моры ўдзельнікаў набажэнства. Міжволі ў гэты час узгадвалася бяссілле школьнага настаўніка ў ягоным намаганні навесці дысцыпліну ў класе...

Падчас Святой Літургіі я адчуў усю веліч Каталіцкай Царквы, усю Яе сусветнасць і неабмежаванасць. Адчуў таксама прысутнасць Духа Святога і ўсю тую ласку, якую Госпад Бог пасылае сваім слугам. Гэты настрой можна параўнаць з пачуццём той жанчыны, што многа гадоў хварэла крывацечай і ацалілася пасля таго, як дакранулася да краю вопраткі Госпада Ісуса *(пар. Лк 8, 44)*. Цудоўна тое, што мая маленькая сястра Марфа, якой не споўнілася яшчэ два гады, вытрымала на пляцы ў полі ад сёмай гадзіны раніцы да чатырнаццаці гадзінаў дня, на спякоце, ні на што не скардзілася і нічога не прасіла. Пасля Святой Імшы ў яе нават знікла алергія, якая трымалася ўжо некалькі месяцаў і не здымалася аніякімі лекамі.

Пад канец Літургіі Святы Айцец звярнуўся да беларусаў, расейцаў і ўкраінцаў на іх родных мовах. Калі ён пачаў свой зварот, на ягоным твары з'явілася ўсмешка, і Ён стаў яшчэ больш добрым і прыгожым.

Працяг на стар. 16



*Седльцы, 10.06.1999. Беларускія грэка-католікі на сустрэчы з Рымскім Архірэем: «Беларускія ўніяты вітаюць Святога Айца!», «Ойча, блаславі Беларусь!»*

Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучанняў»

# "Адчуць сябе часткаю вялікага свету"

*Дарагі біскуп Альберта!*

*Вашае пытанне прымусіла мяне да шмат якіх разважанняў. Найперш, хацела б Вам прызнацца ў пэўных рэчах: я рэдка хаджу ў царкву — не праз адсутнасць інтарэсу, а праз адсутнасць часу. Часта мы наведваем царкву пры нашай школе, і якая ж яна заўжды аднастайная!*

*Мне б прыйшлася па душы маленькая, нават цесная царква,— пакой, дзе маглі б размясціцца максімум чалавек дваццаць.*

*Гэта таму, што там мне было б прасцей сачыць за набажэнствам і маліцца. Я зразумела гэта, калі аднойчы брала ўдзел разам з класам у імшы, якая адпраўлялася ў царкве памерам з пакой.*

*Я не вельмі добра разумею пытанне, таму што, на мой погляд, цяжка штосьці шукаць, чагосьці дабівацца ад месца, ад пакоя. На шмат прасцей было б сказаць: «Чаго ты шукаеш, чаго просіш у Бога?» Такое пытанне мне падыходзіць больш: ва ўсялякім разе, Бог — асоба. Дык вось, у Бога я бы папрасіла шмат усяго, але перш за ўсё мне хацелася б дапамагаць людзям, якім кепска і якія церпяць.*

*Наогул, гэта пытанне, якое прымушае задумацца, і ў той жа час гэтае пытанне дапамагло мне адчуць сябе часткаю вялікага свету, і ў дадзены час я адчуваю сябе грамадзянкай свету, якая гатова дапамагчы бліжняму.*

**Эрыка**

*Чакаю Вашага адказу*

Цудоўная Эрыка!

Сапраўды трэба быць «грамадзянінам свету». Калі хочаш, перадам гэты выраз адным словам, якое, можа быць, здасца табе не такім прыцягальным. Трэба быць «католікам». Менавіта так, бо слова «каталіцкі» азначае «усяленскі», «паўсюдны». І быць католікам азначае быць грамадзянінам свету ў атачэнні не толькі сваіх сучаснікаў, але і тых, хто прыйдзе ў будучыні, і тых, хто ўжо на Нябёсах. Бачыш цяпер, што трэба быць найперш «каталіцкімі грамадзянамі», а потым ужо грамадзянамі свету! Але менавіта таму я вельмі цаню тое, што ты мне расказала пра набажэнства, што праводзіцца ў невялікай групе. Бо ад шчыльнай сардэчнасці групы можна перайсці да ўсяленскасці свету.

Але значнасць Набажэнства не можа залежаць ад таго, у маленькай ці ў вялікай групе яно адбываецца. Думаю, для цябе было б важна паспрабаваць зразумець, у чым ёсць значэнне Еўхарыстыі: безумоўна, не паасобку, а можа быць,— з дапамогай парафіі. Еўхарыстыя — вялікі дар, які дае нам Госпад, і ў якім раскрываюцца ўсе іншыя дары: дары Ягонага слова, жыцця, якое Ён даў нам, дары іншых людзей, і асабліва дар Айца, якому мы павінны навучыцца дзякаваць.

І вось яшчэ што: паколькі ты гаворыш, што хацела б, каб Госпад паслаў табе тых, што церпяць, узрастаючы ў хрысціянскай веры, ты мусіш адкрыць у іх не толькі патрэбы, але і дары для сябе. І хачу яшчэ сказаць табе, што для таго, каб мець магчымасць аддаць сябе ім, ты павінна папрацаваць над сабой. І ў такім выпадку неабходна будзе найперш адшукаць усе дары, якія ёсць у цябе, усе твае здольнасці, тваё пакліканне,— каб усё больш і больш быць дарам для ўсіх.

Жадаю табе гэтага. З сяброўскім прывітаннем,

**† Біскуп Альберта**

# Сямейныя рэкалекцыі ў Закапаным

З 15 па 21 жніўня 1999 году ў г.Закапанэ (Польшча) прайшлі сямейныя рэкалекцыі, арганізаваныя фармацыйна-біблійным рухам «Метаноя». У гэтых рэкалекцыях чынны ўдзел бралі 8 беларускіх сем'яў з грэка-каталіцкіх парафіяў з Менску, Берасця, Пінску, Івацэвічаў, Горадні, Ліды. Узначальваў групу прадстаўнікоў з Беларусі душпастыр для грэка-католікаў Берасцейскай вобласці а. Ігар Кандрацьеў з Берасця.

Агульная колькасць удзельнікаў рэкалекцыяў (разам з дзецьмі) была каля 100 чалавек, яны прадстаўлялі розныя рэгіёны Польшчы, Беларусі і Украіны. Адказным за арганізацыю рэкалекцыяў быў вядомы ў Беларусі кіраўнік руху «Метаноя» Рышард Марджэеўскі. Разам са сваёй жонкай Данутай на працягу доўгіх гадоў ён займаецца праблемай фармацыі хрысціянскіх сем'яў, сямейнай псіхалогіяй, выхаваннем дзяцей у любові да Хрыста.

Выклады праводзіліся ў змяшаных польска-беларускіх групах, асобна для мужоў, для жонак і моладзі. Штодня адпраўлялася св. Імша ў касцёле айцоў-марыянаў. Таксама для ўдзельнікаў рэкалекцыяў была адпраўлена і ўсходняя Літургія. Яе адслужыў Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі марыянін айцец архімандрыт Сяргей Гаек, які наведаў рэкалекцыі.



Курс духоўных практыкаванняў праходзіў у курортнай зоне польскіх Татраў. Таму ўдзельнікі сустрэчы мелі таксама магчымасць добра адпачыць, наведаць Татраўскі нацыянальны парк, здзейсніць узыходжанне на асобныя горныя вяршыні, у тым ліку на гару Гэвонт, на якой усталяваны велізарны крыж. Вельмі задаволеныя былі дзеці, большасць з якіх упершыню патрапілі ў горы. І дзеці і дарослыя знайшлі сабе новых сяброў у хрысціянскіх сем'ях, сталі больш адкрытыя для супрацоўніцтва ў Хрысце.

У апошні дзень рэкалекцыяў адбыліся заключныя сустрэчы ў рэгіянальных групах, дзе ўдзельнікі змаглі падзяліцца сваімі ўражаннямі з землякамі аб прайшоўшых рэкалекцыях. На развітанне была наладжана сумесная агапа і салодкі стол для дзяцей.

**Яўген Андросік**

*г.Менск*

*З нагоды 25-годдзя святарства Апостальскага візітатара для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека рэдакцыя «Царквы» падрыхтавала інтэрв'ю з ім.*

***— Найвялебны Ойча! 23 чэрвеня гэтага году споўнілася 25 гадоў Вашага святарскага служэння. Як і чаму Вы сталі святаром?***

— Маё святарскае пакліканне сур'ёзна я пачаў адчуваць падчас вучобы ў ліцэі. Гэта быў час II Ватыканскага Сабору, які распачаў працэс аднаўлення жыцця Царквы і вярнуў руская мовай не падабаўся органам бяспекі ПНР, яны націскалі на маіх зверхнікаў, каб тыя забаранілі мне вывучаць беларускую мову.

***— Як усё ж сталася, што Вы вырашылі прыняць усходні абрад? Грэка-Каталіцкая Царква ў краінах Усходняе Еўропы ў гэты час была амаль цалкам знішчаная, загнаная ў падполле і, здавалася, шанцаў для аднаўлення яе царкоўнага жыцця амаль не было...***

— Я распачаў з таго, што ўсё ж — не зважаючы на небяспеку — было магчымае. У часы камуністычнага пера-цоўніцтву шматлікіх хрысціянаў з Усходняй Еўропы і з Захаду. Значна пазней прыйшоў час для кантактаў з грэка-католікамі ў былым Савецкім Саюзе, на Украіне і не толькі... Крыніцай надзеі на адраджэнне Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі быў для мяне біскуп Часлаў Сіповіч, а таксама *Marian House* (Дом марыянаў) у Лондане.

***— Сёння часам можна пачуць такое меркаванне: «У Беларусі дзейнічае Праваслаўная Царква, трывалыя пазіцыі займае Рыма-Каталіцкая Царква. На што нам яшчэ і грэка-католікі — хай ідуць ці да адных, ці да іншых...»***

# «Сведчанне нашых мучанікаў з'яўляецца для нас заклікам да евангелізацыі»

***На пытанні рэдакцыі «Царквы» адказвае Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей ГАЕК***

належнае месца ў Паўсюднай Царкве Усходнім Каталіцкім Цэрквам. Я зразумеў, што Бог кліча мяне да служэння менавіта гэтым Усходнім Цэрквам. З гэтай прычыны я і выбраў закон марыянаў, дзе была жывая традыцыя працы ва ўсходнім абрадзе. У той самы час я падумваў пра студыі славянскай філалогіі, аднак выбраў марыянаў і служэнне Усходнім Цэрквам і не шкадую. Пасля гэтага жыццё змабілізавала да вывучэння шматлікіх славянскіх (і не толькі) моваў. Мая мара пра славянскую філалогію прынамсі часткова споўнілася, як нібы прынагодна.

***— Не так шмат беларусаў сёння могуць свабодна размаўляць на роднай мове. Непераадольнай праблемай застаецца пераход на беларускую мову для абсалютнай большасці праваслаўных і пратэстанцкіх святароў. Вы ж добра валодаеце беларускай мовай. Калі і як Вы змаглі яе вывучыць?***

— Беларуская мова цікавіла мяне ўжо ў ліцэі, але першы сур'ёзны кантакт з ёй і неперакручанай гісторыяй Беларусі я меў толькі як семінарыст, дзякуючы беларускаму святару айцу Тамашу Падзяве, які тады знаходзіўся ў Варшаве. Пасля я чытаў па-беларуску забароненую кніжку а. Язэпа Германовіча «Кітай, Сібір, Масква». (Гэтая кніга — аповед пра складанае жыццё і лёс аўтара і ягоных сяброў — беларускіх айцоў-марыянаў усходняга абраду, якія доўгі час працавалі ва ўсходне-каталіцкай місіі ў Харбіне.— *заўв. рэд.*) Потым маёй сталай літаратурай да чытання была беластоцкая «Ніва», няважна, што мела яна даволі пракамуністычны змест. Мой кантакт з бела-



**Архімандрыт Сяргей ГАЕК, MIC**

Нарадзіўся ў 1949 г. у Лышкавіцах (Польшча).

З'яўляецца доктарам багаслоўя, доктарам Усходніх Царкоўных Навук, членам-карэспандэнтам Папскай Міжнароднай Марыйнай Акадэміі. Прафесар Экуменічнага Інстытуту ў Каталіцкім універсітэце Любліна. Даследчык духоўнасці і літургіі Усходніх Цэркваў, аўтар цэлага шэрагу навуковых прац і кніг. З восені 1993 году — дэлегат-візітатар Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў у справе грэка-католікаў у Беларусі, а са студзеня 1994 году — Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі.

следу рэлігіі на працягу многіх гадоў я дапамагаў грэка-католікам у Балгарыі і ў Чэха-Славакіі. Гэта дало мне магчымасць пазнання абедзвюх моваў, асабліва славацкай, якая на доўгі час стала маёй другой мовай. Хацеў бы адзначыць, што гэтая дапамога была магчымай, дзякуючы экуменічнаму супра-

— Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква мае сваю багатую гісторыю. Гэта была гісторыя пераследаванняў і мучаніцтва: за часы царызму і за часы камунізму. Хто можа даць нам права забыцца пра гэтую спадчыну нашых продкаў па веры, якія жадалі захаваць уласную, усходнюю літургічную традыцыю і быць у еднасці з Пятровай Сталіцай у Рыме? Менавіта гэтае сведчанне нашых мучанікаў з'яўляецца для нас заклікам да евангелізацыі на мяжы II і III Тысячагоддзя. Мы радуемся развіццю Рыма-Каталіцкай Царквы і пасапраўднаму евангелізацыйнай працы Праваслаўнай Царквы і не маем намеру ні з кім канкураваць. Мы хочам абвяшчаць Евангелле тым, да каго яны не дасягаюць.

***— Як Вам бачыцца ва ўмовах нашае Царквы рэалізацыя заклiку Святога Айца да Новае Евангелізацыі?***

— Новая Евангелізацыя — гэта праграма, якую Святы айцец Ян Павел II ставіць перад усёй Паўсюднай Царквой. Няма аніякай прычыны, каб нашая Царква не ўключылася ў гэтую вялікую праграму аднаўлення духоўнага жыцця. Новая Евангелізацыя азначае новы запал, новыя сродкі і новыя метады. Новы і трывалы запал у пазнаванні Евангелля Ісуса Хрыста нам у Беларусі вельмі патрэбны. Мы мусім пераадолець постсавецкую нясталасць. Новыя сродкі — гэта выхад з Добрай Весткай па-за сцены нашых цэркваў і капліцаў, каб дасягнуць і іншых людзей, абыякавых і атэістаў. Новыя метады азначаюць, сярод іншага, звяртанне большае ўвагі на супольнасцевы характар Евангелізацыі. Добрую Вестку павінна

абвяшчаць не толькі духавенства; Евангелізацыя — гэта справа ўсёй парафіяльнай супольнасці. Чалавек, які шукае Хрыста, павінен мець магчымасць знайсці ў нашых парафіях жывыя супольнасці хрысціянаў, якія дапамагаюць сабе наўзаем складаць сведчанне веры ў штодзённым жыцці. Новая Евангелізацыя ёсць справай усёй Царквы.

***— Кіраўнікі так званай «Супольнасці св. Яна Хрысціцеля», якая дзейнічае ў Менску, неаднаразова сцвярджалі, што толькі яны займаюцца Новай Евангелізацыяй у Беларусі. Як Вы ацэньваеце дзейнасць гэтай Супольнасці?***

— Нельга аспрэчыць той факт, што шмат сённяшніх актыўных крытыкаў «*Koinonii* св. Яна Хрысціцеля» прыйшлі да Каталіцкай Царквы дзякуючы евангелізацыйнай працы гэтае супольнасці. Першыя евангелізацыйныя курсы, якія ладзіла Супольнасць, далі добрыя плады. На жаль, з часам асобныя лідары Супольнасці пайшлі па шляху ізалявання ад іншых і грэбавання аўтарытэтам Царквы. Вельмі шкада. Ясная справа, што такія паводзіны лідараў Супольнасці сустракалі маю крытыку, якую неаднаразова я выказваў ім словам і пісьмова. Калі ж хтосьці хоча распаўсюджваць фальшывую інфармацыю адносна майго крытычнага стаўлення да сённяшняй «*Koinonii*», то гэта ягоная справа, хіба, што ён мае ў гэтым нейкі асаблівы інтарэс. Я заўжды паўтараў: Новая Евангелізацыя — гэта справа ўсёй Царквы, а не адной групы.

***— Ці вядзецца нейкая праца ў нашай Царкве для распачынання працэсу беатыфікацыі (праслаўлення) Полацкіх мучанікаў (манахаў Полацкага манастыра базыльянаў, што былі закатаваныя расейскім царом Пятром I у 1705 г.), беларускіх святароў усходняга абраду арх. Антона Неманцэвіча (кіраўнік Беларускага Экзархату Грэка-Каталіцкай Царквы, які загінуў у засценках гестапа), арх. Фабіяна Абрантовіча, арх. Андрэя Цікоты (загінулі ў лагерах) і іншых мучанікаў XX стагоддзя?***

— Мы маем усведамленне маральнага абавязку дакументальнага пацвярджэння і ўшанавання нашых мучанікаў XX стагоддзя. Распачалася папярэдняя дакументацыйная праца, што з'яўляецца падставай для распачынання беатыфікацыйных працэсаў. Гэта карпатлівая праца, і яна вымагае шмат сілаў, і я вельмі шчыра прашу аб ёй.

***— Дзякуем, што нягледзячы на Вашую вялікую занятасць, Вы знайшлі час для адказу на нашыя пытанні і чакаем працягу нашай гаворкі.***

*(З 14 пытанняў, прапанаваных рэдакцыяй «Царквы», айцец архімандрыт гэтым разам адказаў на сем. Да астатніх пытанняў ён абяцаў вярнуцца пазней)*

# Гамілія Святога Айца Яна Паўла II у Седльцах

*Працяг, пачатак на стар. 2-3*

Дарагія Браты і Сёстры! Праз святы хрост вы былі злучаныя з Хрыстом. Ствaрайце Царкву — Ягонае Містычнае Цела. Праз вас хоча дзеіць Хрыстос моцай свайго Духа. Ён праз вас прагне «звеставаць убогім, прапаведаваць палонным вызваленне, сляпым празарэнне». Праз вас прагне «адпускаць спакутаваных на свабоду і абвяшчаць год Гасподняга спрыяння» *(пар. Лк 4, 18-19)* Як людзі свецкія, верныя сваёй тоеснаснасці, жывучы ў свеце вы можаце дзейсна і паспяхова перамяняць свет у духу Евангелля. Будзьце соллю, якая дае хрысціянскі смак жыццю. Будзьце святлом, якое свеціць у змроку абыякавасці і эгаізму.

У Пасланні да Дыягена чытаем: «Чым ёсць душа ў целе, тым у свеце ёсць хрысціяне. Душа працінае ўсе часткі цела, хрысціяне — усе месцы свету». Новая евангелізацыя ставіць перад вамі вялікія задачы. Мой папярэднік Папа Павел VI у Апостальскай адгартацыі *Evangelii nuntiandi* напісаў: «Уласцівым полем для евангелізацыйнай актыўнасці (людзей свецкіх) з'яўляецца шырокая і вельмі няпростая сфера палітыкі, грамадскага жыцця, гаспадаркі, сфера культуры, навукі і мастацтва, міжнародных стасункаў, сродкаў масавай інфармацыі; гэтаму спрыяюць некаторыя сферы, асабліва адкрытыя на евангелізацыю, такія, як любоў, сям'я, выхаванне дзяцей і моладзі, прафесійная праца, людскія цярпенні» *(пар. п. 70)*. [...]

***4. Сёння мы аддаем пашану рэліквіям падляшскіх мучанікаў і схіляемся перад Пратулінскім Крыжам, які быў нямым сведкам іх гераічнай вернасці.*** Гэты Крыж, які яны трымалі ў сваіх руках, насілі таксама глыбока ў сваіх сэрцах, як знак любові Айца і еднасці Хрыстовае Царквы. Крыж даў ім сілу, каб засведчыць аб Хрысце і Ягонай Царкве. Спраўдзіліся на іх Паўлавы словы з сённяшняй літургіі: «Калі Бог за нас, хто супраць нас?» *(Рым 8, 31)*. Праз сваю смерць у асаблівы спосаб яны былі далучаныя да вялікай спадчыны веры, пачынаючы ад святога Войцеха, святога Станіслава і святога Язафата, аж па нашыя часы.

Незлічоная колькасць тых, што цярпелі на польскай зямлі для Хрыстовага Крыжа і панеслі для яго найвялікшыя ахвяры. Неаднаразова ў сваёй гісторыі наш народ мусіў бараніць сваю веру і зносіць уціск і перaслед за вернасць Царкве. У прыватнасці доўгі паваенны перыяд запісаўся як час асабліва балючай барацьбы з Царквой, якую праводзіла таталітарная сістэма. У тыя часы забаранялася навучанне рэлігіі і абцяжарвалася публічнае вызнанне веры, а таксама будаўніцтва святыняў і капліцаў. Як жа шмат ахвяраў трэба было тады панесці, як жа шмат адвагі каштавала захаванне хрысціянскай тоеснасці. Немагчыма, аднак, аказалася знішчыць крыж — гэты знак веры і любові — з жыцця асабістага і грамадскага, бо ён глыбока ўкараніўся ў глебу сэрцаў і сумленняў, стаўшыся для народу і Царквы крыніцай сілы і знакам еднасці паміж людзьмі.

Новая евангелізацыя патрабуе сапраўдных сведкаў веры. Людзей закаранелых у крыжы Хрыстовым і гатовых для яго прынесці ахвяру. Вось жа праўдзівае сведчанне пра жыццядайную моц крыжа дае той, хто ў яго імя скарыць у сабе грэх, эгаізм і ўсялякае зло, хто прагне наследаваць любові Хрыстовай да канца.

Трэба, каб так, як у мінулым, крыж быў і надалей прысутны ў нашым жыцці як выразны ўказальнік у дзеянні і святло, што прасвятляе ўсё нашае жыццё. Няхай крыж, які сваімі рамёнамі лучыць неба з зямлёю і людзей між сабою, разрастаецца на нашай зямлі ў вялікае дрэва, якое прыносіць плады збаўлення. Няхай ён родзіць новых і адважных вестуноў Евангелля, якія любяць Царкву і за яе адказваюць, праўдзівых герольдаў веры, новых людзей, племя, якое распаліць паходню веры і ўнясе яе палаючай на парог трэцяга тысячагоддзя.

**Ад імя рэдакцыі «Царквы» і ўсёй Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы шчыра віншуем нашага Апостальскага візітатара айца архімандрыта Сяргея ГАЕКА з 25-гадовым юбілеем святарскага служэння і з 50-годдзем з дня нараджэння.**

**Няхай Госпад заўжды натхняе і спрыяе Вам у служэнні дзеля хрысціянскай еднасці, адраджэння нашай з'яднанай Царквы, нашай Бацькаўшчыны і беларускага народу. Няхай Госпад адорвае Вас шматлікімі ласкамі і дае Вам моцнае здароўе.**

***МНОГІЯ ЛЕТЫ, МНОГІЯ ЛЕТЫ, МНОГІЯ ЛЕТЫ!***

# Блаславёныя Зямлі Беларускай




Блаславёныя Юры Кашыра і Антон Ляшчэвіч

У нядзелю 13 чэрвеня ў Варшаве, у часе свайго Апостальскага візіту ў Польшчу, Святы Айцец здзейсніў акт беатыфікацыі (праслаўлення) 108 мучанікаў, якія сталіся ахвярамі нацысцкага тэрору ў часе II Сусветнай вайны і ахвярнасцю свайго жыцця далі сведчанне любові да Хрыста. Сярод 108 мучанікаў з тэрыторыі ўсёй II Рэчы Паспалітай (у яе склад тады ўваходзіла Заходняя Беларусь) — 11 блаславёных мучанікаў, якія звязаныя з Беларуссю. Акрамя найбольш вядомых мучанікаў з Расіцы — **айцоў марыянаў Юрыя Кашыры і Антона Ляшчэвіча** (пра іх лёс «Царква» пісала ў мінулым нумары), трэба ўспомніць і іншых 9: трох святароў Віленскай дыяцэзіі, аднаго святара Пінскае дыяцэзіі, двух айцоў канвентуальных францішканаў з Івянца, дзве манашкі з закону Сясцёр Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі са Слоніма ды адну свецкую каталічку, якая памерла на Гарадзенскай зямлі.

9 лістапада 1941 году ў лесе каля гораду Барысаў прыняў мучаніцкую смерць з рук нямецкай жандармерыі **айцец Генрых Глябовіч**, святар Віленскае дыяцэзіі.

Нарадзіўся ён у Горадні ў 1904 годзе. У 1912 годзе, калі Генрых меў 8 гадоў, ягоны бацька разам з усёй сям'ёй быў сасланы ў глыб Расеі — у Арэнбург. Пасля падпісання Рыжскага міру ўся сям'я здолела вярнуцца ў 1921 годзе ў Горадню, а Генрых змог паступіць у Духоўную семінарыю ў Вільні. Чакаючы на святарскае свячанне, ён пачаў вучобу ў Каталіцкім універсітэце Любліна. Там у 1927 годзе ён быў высвячаны на святара, а ў 1928 годзе атрымаў доктара тэалогіі за працу: «Адзінства Хрыстовае Царквы паводле Святога Яна Хрызастома». Пасля свае студыі ён працягваў у Рыме на «Анджэлікум», дзе ў 1929 годзе атрымаў дактарат у філасофіі. Пасля вяртання ў Вільню а.Глябовіч працаваў у некалькіх парафіях ды быў прафесарам тэалогіі ў Віленскім універсітэце Стэфана Баторыя.

Кс. Генрых Глябовіч быў незвычайна ахвярным душпастырам, апосталам еднасці хрысціянаў. Сваім служэннем ён аказаў вялікі ўплыў на студэнцкую моладзь Вільні і архідыяцэзіі. 3 траўня 1941 году а. Глябовіч склаў акт аддання Богу свайго жыцця як адкупляльную ахвяру за ратаванне веры ў моладзі.

У чэрвені 1941 году, калі пачалася вайна гітлераўскай Нямеччыны з Савецкім Саюзам і беларускія землі апынуліся пад фашысцкай акупацыяй, айцец Генрых пачаў весці душпастырскую працу ў пакінутых каталіцкіх парафіях Барысаўшчыны. Служыў католікам у мясцовасцях Хатаевічы, Корань і Акалова. Не зважаючы на праблемы са здароўем, вельмі ахвярна і плённа арганізоўваў рэлігійнае жыццё сярод мясцовага насельніцтва. 7 лістапада 1941 году айцец Генрых быў арыштаваны і выданы нямецкай жандармерыі, якая яго расстраляла ў лесе каля Барысава 9 лістапада 1941 году. Ягонага цела не знайшлі да сённяшняга дня.

4 сакавіка 1942 году, паблізу мясцовасці Беразвечча каля Глыбокага былі расстраляныя тры каталіцкія святары: айцец Мечыслаў Багаткевіч (святар Пінскай дыяцэзіі, які працаваў на тэрыторыі Віленскай дыяцэзіі), айцец Уладзіслаў Мацьковяк і айцец Станіслаў Пыртак (абодва з Віленскай дыяцэзіі).

**Айцец Мечыслаў Багаткевіч** нарадзіўся 1 студзеня 1904 году ў маёнтку Крыкалы каля Дунілавіч на Віленшчыне. Вучыўся ў гімназіі ў Будславе, затым у Докшыцах ды ўрэшце ў біскупскай гімназіі ў Наваградку. 23 ліпеня 1933 году ён закончыў вучобу ў Духоўнай семінарыі ў Пінску і атрымаў святарскія свячанні. У 1936-1939 гадах а. Багаткевіч быў прэфектам гімназіі ў Лунінцы. У лістападзе 1941 году ён выехаў у Дрысу, якую акупавалі нямецкія войскі, каб несці духоўную дапамогу тутэйшым католікам, якія шмат гадоў былі пазбаўлены душпастырскае апекі. Не зважаючы на перасцярогі, а. Мечыслаў Багаткевіч не пакінуў сваіх вернікаў і ў выніку быў арыштаваны гестапа 16 студзеня 1942 году. Яго кінулі ў турму ў Глыбокім, дзе ўжо ад Калядаў 1941 году знаходзіліся два іншыя святары: айцец Уладзіслаў Мацьковяк і айцец Станіслаў Пыртак.

**Айцец Уладзіслаў Мацьковяк** нарадзіўся 14 лістапада 1910 году ў мясцовасці Сыткі каля Драгічыня, закончыў Духоўную семінарыю ў Вільні і быў высвячаны на святара 18 чэрвеня 1939 году. Пасля святарскіх свячанняў ён абслугоўваў парафію Іказнь на Браслаўшчыне. Руплівая душпастырская праца айца Уладзіслава не падабалася акупантам, якія яго арыштавалі 3 снежня 1942 году і змясцілі ў вязніцы ў Браславе, а потым у Глыбокім.

**Айцец Станіслаў Пыртак** нарадзіўся 21 сакавіка 1913 году ў Быстрэй на Падгаллі (Польшча). У 1934 годзе ён паступіў у Духоўную семінарыю ў Вільні. Па яе заканчэнні 16 чэрвеня 1940 году атрымаў святарскія свячанні. Затым была кароткая душпастырская праца ў Дукштах каля Вільні, а ў верасні 1941 году яго накіравалі дапамагаць айцу Уладзіславу Мацьковяку ў парафіі Іказнь на Браслаўшчыне. Пасля арышту айца Мацьковяка а. Пыртак паехаў у Браслаў, каб у акупацыйных уладаў заступіцца за свайго пробашча. Але і ён таксама быў арыштаваны гестапам. Пасля некалькіх тыдняў следства і здзекаў абодва святары — Уладзіслаў Мацьковяк і Станіслаў Пыртак — перад Калядамі былі перавезеныя ў глыбоцкую турму. Абодва яны разам з айцом Мечыславам Багаткевічам былі кінуты ў камеру смертнікаў 2 сакавіка 1942 году. Ноччу святары выспавядаліся адзін перад адным і адслужылі Святую Імшу. Перад расстрэлам гэтыя тры святары ўсклікнулі разам: «Няхай жыве Хрыстос Валадар!» Расстралялі іх 4 сакавіка 1942 году ў лесе Барок каля Беразвечча.

19 снежня 1942 году ў мясцовасці Пятралевіцкая Гара каля Слоніму нямецкай жандармерыяй былі расстраляны дзве манашкі з Закону Сясцёр Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі: законніца Марыя Марта Валоўская і законніца Марыя Ева Наішэўская разам з капеланам кляштару законніц — езуітам айцом Адамам Старкам і іншымі 600 вязнямі.

**Законніца Марыя Марта Валоўская** (свецкае імя Казіміра) нарадзілася 12 кастрычніка 1879 году ў Любліне. У 1900 годзе ўступіла да Закону Сясцёр Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

У 1919 годзе сястра Марта была накіравана на працу на Валынь, дзе займалася апостальскай дабрачыннай

і экуменічнай дзейнасцю. Ва ўзведзеным законніцамі прытулку для сіротаў і бяздомных дзяцей знайшлі апеку дзеці рознае нацыянальнасці і веравызнання: рыма-каталіцкага, грэка-каталіцкага, праваслаўнымі. У жніўні 1939 году сястра Марта Валоўская стала ігуменняй кляштару ў Слоніме.

З пачаткам II Сусветнай вайны яна арганізавала дапамогу сем'ям увязненых і забітых, а таксама габрэям. Габрэяў яна хавала ў сваім кляштары. Гестапа арыштавала яе ноччу з 18 на 19 снежня 1942 году разам з законніцаю Еваю Наішэўскаю, якая працавала доктарам у бальніцы, ды з капеланам кляштару — айцом Адамам Старкам, езуітам.

**Законніца Марыя Ева Наішэўская** (свецкае імя Багуміла) нарадзілася 24 чэрвеня 1885 году ў Асанішках у Віленскай губерні. Ейныя бацькі былі сасланыя ў глыб Расеі за ўдзел у паўстанні 1863 году, праз гэта гады дзяцінства Багуміла правяла ў ваколіцах Дынабурга, а затым у Туле пад апекаю бабкі. Падчас вучобы ў гімназіі яна сустрэла айца Зыгмунта Лазінскага (пазнейшага менскага ды пінскага біскупа, цяпер кандыдата на алтар славы), які на працягу многіх гадоў быў яе духоўным кіраўніком. У 1914 годзе Багуміла закончыла медыцыну ў Пецярбургу і ў часе I Сусьветнай вайны працавала ў лазарэтах і розных бальніцах. У 1919 годзе Багуміла ўступіла да Закону Сясцёр Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і атрымала законнае імя Марыя Ева.

У 1938-1942 гадах яна працавала ў кляштары ў Слоніме. З-за пагрозы рэпрэсіяў у 1940 годзе сястра Ева, з даручэння кіраўніцтва кляштару, пэўны час жыла ў ваколіцах Баранавічаў і Наваградка. Зноў у Слонім сястра Ева Наішэўская вярнулася ў 1941 годзе, калі нямецкія войскі занялі горад. У атмасферы тэрору і экстэрмінацыі насельніцтва горада яна, разам са сваёю ігуменняй сястрой Марыяй Мартай Валоўскай, несла дапамогу праследаваным і абяздоленым.

Мучаніцкую смерць праз расстрэл абедзве законніцы панеслі ў мясцовасці Пятралевіцкая Гара каля Слоніма 19 снежня 1942 году.

19 ліпеня 1943 году ў вёсцы Барыкоўшчына непадалёку ад Івянца, на тэрыторыі парафіі Пяршаі мучаніцкую смерць ад рук гестапа прынялі два канвентуальныя францішканцы: айцец Ахілес Пухала і айцец Герман Стэмпень.

**Айцец Юзаф Ахілес Пухала** нарадзіўся 18 сакавіка 1911 году ў вёсцы Косіна, у Перамышльскай дыяцэзіі. У 1924 годзе ён паступіў у ніжэйшую Духоўную семінарыю айцоў францішканаў у Львове. Да закону быў прыняты ў 1927 годзе. Пасля заканчэння семінарыйнае вучобы атрымаў святарскія свячанні 5 ліпеня 1936 году. Першыя гады святарскага служэння правёў у Горадні ў касцёле Маці Божай Анёльскай, затым быў пераведзены ў манастыр у Івянцы. Там застала яго II Сусветная вайна. У 1940 годзе ён узняў працу ў парафіі Пяршаі каля Івянца, куды неўзабаве прыехаў дапамагаць яму айцец Герман Стэмпень з Вільні.

**Айцец Караль Герман Стэмпень** нарадзіўся 21 кастрычніка 1911 году ў Лодзі. У 1926 годзе трапіў у ніжэйшую Духоўную семінарыю айцоў францішканаў у Львове. Да самога закону быў прыняты ў 1926 годзе, а ў 1934 склаў у Кракаве вячыстыя шлюбы і як выключна таленавіты быў пасланы на багаслоўскія студыі ў Рым, дзе скончыў папскі тэалагічны факультэт св. Банавентуры. Пасля вяртання на Бацькаўшчыну ў 1939 годзе атрымаў ступень магістра тэалогіі ў Львоўскім універсітэце. Пасля кароткай працы ў Радомску быў накіраваны ў Вільню, а адтуль у 1941 годзе ў Івянец і Пяршаі.



*Абраз 108 мучанікаў Царквы часоў II Сусветнай вайны*

У часы тэрору і акупацыі айцы францішкане неслі дапамогу і духоўнае суцяшэнне сваім парафіянам. Абодва айцы былі арыштаваныя гестапа 19 ліпеня 1943 году разам са шматлікімі парафіянамі. На ахвяраваную ім магчымасць уцёкаў айцы адказалі, што «пастыры не могуць пакінуць вернікаў». Гестапа прывяло ўсіх арыштаваных да вёскі Барыкоўшчына. Там святароў адлучылі ад вернікаў, завялі іх на скрай вёскі і там, у клуні, яны былі закатаваныя. Іншым арыштаваным жыхарам Пяршаяў гестапа даравала жыццё, замяніўшы смяротны прысуд на прымусовую працу ў Нямеччыне.

13 ліпеня 1943 году каля вёскі Навумовічы пад Горадняй была расстраляна нямецкай жандармерыяй каталічка **Марыяна Бярнацкая** разам з 49 іншымі жыхарамі вёскі Ліпск.

Марыяна з роду Чакала нарадзілася ў 1888 годзе ў Ліпску над ракою Бебжа. Праўдападобна, паходзіла з уніяцкай сям'і. Маючы 20 гадоў, выйшла замуж за Людвіка Бярнацкага і нарадзіла шасцёра дзяцей, з якіх пры жыцці засталося толькі двое: дачка Леакадыя і сын Станіслаў.

Марыяна была прыкладнаю хрысціянкаю ў сямейным і парафіяльным жыцці. З 11 ліпеня 1939 году, ад шлюбу сына Станіслава з Ганнаю з дому Шыманьчык, Марыяна падзяляла сваё жыццё і працу з маладым сужэнствам, праяўляючы матчыну любоў адносна сужонкаў і іхніх нашчадкаў.

На пачатку ліпеня 1943 году ў хату маладой сям'і Бярнацкіх увайшоў узброены нямецкі эсэсавец, каб арыштаваць Станіслава і Ганну. Тады цешча ўпала да ног эсэсаўца і ўпрошвала, каб яна магла пайсці пад арышт замест цяжарнае нявесткі, якая была на апошніх тыднях цяжарнасці. Эсэсавец згадзіўся на такую замену. Марыяна разам з сынам Станіславам і іншымі арыштаванымі жыхарамі Ліпска і ваколіцаў была перавезена да турмы ў Горадні. 13 ліпеня 1943 году Марыяна Бярнацкая разам з 49 іншымі жыхарамі Ліпска была расстраляная фашыстамі. Марыяна сваёй добраахвотна прынятаю мучаніцкаю смерцю, якая спрычынена хрысьціянскай любоўю, уратавала жыццё сваёй нявестцы, якая чакала на нараджэнне свайго дзіцяці.

*«Царква, узносячы сваіх дзяцей да хвалы алтароў, паказвае Богу яшчэ раз ахвяру іх жыцця, а нам нагадвае пра моц Уваскрослага Хрыста, здольную перамагаць зло і перамяняць свет. Сведчанне жыцця і мучаніцтва Блаславёных нагадвае нам, што Уладаром Сусвету і гісторыі быў, ёсць і застанецца наш Збаўца — Ісус Хрыстос!»*

## Просьба аб прабачэнні

У папярэднім нумары «Царквы» ў інфармацыі пра намінацыю біскупа Казіміра Велікасельца была пададзена памылковая інфармацыя, што ён стаў біскупам ардынарыем Пінскай дыяцэзіі. Папраўленая інфармацыя мусіць быць такой: біскуп Казімір Велікаселец прызначаны дапаможным біскупам Яго Эмінэнцыі Кардынала Казіміра Свёнтка — Апостальскага адміністратара Пінскай дыяцэзіі.

Шчыра перапрашаем біскупа К.Велікасельца і Яго Эмінэнцыю кс. Кардынала Казіміра Свёнтка.

# Ідуць па свеце манахі

Ідуць па свеце манахі, трымаючы ў адной руцэ крыж, а ў другой — кнігу і плуг. Манастыры ва ўсе часы не былі толькі закрытымі. Манахі, акрамя багаслужбаў і адасобленых малітваў, актыўна займаліся адукацыяй і працай. *Ora et labora* — маліся і працуй — было дэвізам Бенядзікта Нурсійскага, заснавальніка заходняга манаства. Кірыла і Мятод, якія далі ўсходнім славянам пісьменнасць, былі таксама манахамі. Манахі плённа працавалі на ніве асветы і навукі. Выкуплялі палонных, абаранялі прыгнечаных, неслі святло Евангелля па ўсім свеце. Служылі людзям не толькі як пастыры, настаўнікі і лекары, але нярэдка станаваліся ахвярамі, крывёю зацвярджаючы сваю адданасць Хрысту. «Няма большае за тую любоў, як калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх» *(Ян 15, 13)*. Гэтак у сучаснасці ішлі на мучаніцкую смерць Максімільян Кольбэ, манахіня-філосаф Эдзіт Штэйн, айцы-марыяне Юры Кашыра і Антон Ляшчэвіч ды шмат іншых.

Маці Тэрэза з Калькуты стала ўвасабленнем хрысціянскай самаахвярнасці і любові да бліжняга. Да сёння манаства дае свету бліскучых філосафаў, навукоўцаў і педагогаў.

Чалавек пакідае свет таму, што Хрыстос заклікае яго да гэтага. Ён адмаўляецца ад усяго і накіроўваеца на пошукі Бога, як у сваім сэрцы, гэтак жа і дапамагае адкрыць Бога іншым. Да таго часу, пакуль гэта адбываецца, у Царкве будуць манахі.

«Увесь свет ляжыць у зле» *(1 Ян 5, 19)*, а з манаскага сэрца ўзносіцца малітва да Бога.

Ці актуальнае сёння манаства? Ці патрэбна скрыпка ў век электронікі? Ці патрэбна ціхая, чыстая і пяшчотная мелодыя ў грукаце какафоніі? «Мы шануем тых, хто стае на калені... Быць агорнутым сузіраннем не значыць марнаваць час. Ёсць праца бачная, і ёсць праца нябачная. Сузіраць — усё адно што дзейнічаць. Рукі, скрыжаваныя на грудзях, — працуюць, сплеценыя пальцы твораць. Позірк, узнесены ў нябёсы, — дзеянне... Перад тварам той цемры, што акружае нас, і ў няведанні таго, у што ператворыць нас вялікі канчатковы распад, мы адказваем: «Быць можа, няма дзеяння вышэйшага за тое, што твораць гэтыя душы» *(Віктор Гюго)*.

Людзям патрэбныя вечныя малельнікі за тых, хто ніколі не моліцца.

Яны, манахі,— вартаўнікі ночы, сэрцы, якія б'юцца для Бога, калі іншыя спяць...

***Ім, манахам, мы прысвячаем нашу новую рубрыку ў «Царкве».***

***«Не думай, што дзеля сваёй манаскай годнасці і жыцця ў беднасці з Богам ты павінна адгарадзіць сябе ад усяго астатняга свету. Увайдзі паглыбей у жыццё тых, хто цябе атачае, няхай тваё жыццё стане падобным да іх жыцця. З'яднайся з імі ў сяброўстве і любові. Аддай ім сябе без рэшты, падобна Хрысту... Стань спасярод іх рошчынай, якая разыходзіцца ў цесце, каб цеста ўзышло».***

*(З кнігі Катрын Спінк «Кліч пустэльні»)*



*Заснавальніца манаскай Кангрэгацыі Малых Сясцёр Ісуса с. Магдалена*

# «Каб цеста ўзышло»

## Аповед пра манаскую Кангрэгацыю Малых Сясцёр Ісуса

Так пісала ў 1945 годзе жадаючым увайсці ў новую манаскую кангрэгацыю Малых Сясцёр Ісуса яе заснавальніца сястра Магдалена (Мадлен Ютэн). Француженка з сям'і тэрцыяраў (свецкі 3-і чын францішканскага ордэну), у якой ідэалам жыцця ў Хрысце лічылася жыццё брата Шарля дэ Фуко, даследчыка Марока і пустэльніка Сахары, сваім разуменнем манаства і хрысціянства шмат у чым апярэдзіла II Ватыканскі Сабор.

Гэтае разуменне было даравана ёй містычным чынам, калі яна ў 1937 годзе праходзіла навіцыят у кляштары Сен-Шарль белых сясцёр Вінцэнта дэ Поля.

Ува сне Мадлен убачыла кляштарны двор з чарадою нейкіх маўклівых праведніц, а ў глыбіні яго — Багародзіцу, якая падавала ёй Немаўлятка. (Менавіта ёй, таму што праведніцы, занятыя малітвай, не бачылі Яе і праходзілі побач). Мадлен прыняла Яго, прыгарнула да сябе, і «Ён нібы ўвайшоў у яе». З таго часу толькі Ён жыў у яе сэрцы і кіраваў ёю. «Сапраўдны заснавальнік супольнасці — Немаўлятка Ісус»,— заўсёды паўтарала сястра Магдалена.



*Малыя сёстры Ісуса, якія працуюць ва ўніяцкай парафіі Кастамлоты, разам з парахам арх. Раманам Пентакам*

Сёстры не павінны жыць па-пустэльніцку, як брат Шарль, а сярод людзей, каб прапаведаваць ім Любоў — Хрыста — не словам, а ўсім жыццём,— такую выснову зрабіла Мадлен са свайго адкрыцця. Як можна пакінуць Яго толькі ў сваім сэрцы, калі сама Маці аддала Яго нам усім?

Вобраз Багародзіцы, якая падае свету ўсмешлівае Немаўлятка, якое даверліва працягвае да нас свае маленькія ручкі, стаўся сімвалічным для Кангрэгацыі Малых Сясцёр.

У музеі Генеральнага дому Малых Сясцёр у Рыме сабраны з усяго свету дзясяткі цудоўных статуэтак, якія выяўляюць гэты парыў дасканалае любові, на які проста немагчыма не адказаць любоўю. Магчыма, гэтая любоў пачынаецца з чыста мацярынскага пачуцця, але потым вырастае ва ўсеабдымную. «Мы ніколі не будзем любіць дастаткова моцна і заўсёды можам любіць яшчэ мацней»,— не стамлялася паўтараць сёстрам с. Магдалена. І сёстры сапраўды любяць. Яны проста свецяцца любоўю адна да адной і да ўсіх, каго сустракаюць. Нават калі вы патрапіце да іх у самы нязручны час. Любоў для іх стаіць над усімі астатнімі правіламі.

Другім правілам Малых Сясцёр можна назваць іхную «маленькасьць» — поўную адсутнасць славалюбства, жаданне быць як мага менш прыкметнымі, любіць у жыцці апошняе месца, служыць бедным і адкінутым, не баючыся стаць гэткімі самымі. Нават адзенне манашак — простая сіняя сукенка (альбо спадніца і блуза) і звычайная хустачка на галаве — больш нагадвае вопратку звычайных працаўніц, чым манаскі хабіт. Кангрэгацыя Малых Сясцёр зусім незаможная. Сёстры шмат працуюць, яны заўсёды самі зарабляюць на жыццё: на фабрыках і іншых свецкіх прадпрыемствах ды ўстановах.

Нязвыкла выглядае і ўкрыжаванне, якое носяць сёстры: на вялікім крыжы ўкрыжавана маленькае сэрца. Гэта ёсць сімвал таго, што кожная малая сястра гатовая на мучаніцтва і любую ахвяру дзеля з'яднаньня не толькі з усмешлівым Немаўляткам, але і з пакутуючым Хрыстом. «Ахвяра — гэта гатоўнасць пагадзіцца на мучаніцтва; у згодзе і з радасцю прыняць усё, што прынясе дзень»,— напісала с. Магдалена пасля свайго другога містычнага вопыту, калі падчас адарацыі ўбачыла выяву крыжа, што вырастае з сэрца. Гэта і стала эмблемай кангрэгацыі.

Годам заснавання Кангрэгацыі Малых Сясцёр Ісуса лічыцца 1939 год, калі першыя сёстры склалі вечныя абяцанні, а епархіяльнымі ўладамі быў ухвалены статут Кангрэгацыі. Афіцыйнае зацвярджэнне Ватыканам было атрымана толькі ў 1947 годзе. У наступныя трыццаць гадоў статут Малых Сясцёр займеў некалькі рэдакцыяў. Супольнасць, народжаная ў Алжыры і першапачаткова прызначаная несці святло Евангелля народам іслама, стала паступова сусветнай. Змянілася і структура Кангрэгацыі, якая сёння ўключае ў сябе не толькі працоўныя, але і навуковыя, адарацыйныя (сузіральніцкія), экуменічныя і нават качавыя (сярод цыганаў) супольнасці. Існуюць таксама свецкія сёстры. Нязменным засталося асноўнае: каб «цеста ўзышло» любоўю да Хрыста, рошчына павінна быць у ім, у цесце.

Знешняя арыентацыя Кангрэгацыі і ейная актыўная жыццёвая пазіцыя зусім не сведчаць пра тое, што ў жыцці Малых Сясцёр няма месца для сузіральніцтва. На працягу дня сёстры маюць дастаткова часу для адасобленага маўклівага роздуму перад Святымі Дарамі. Гэта ўласціва для ўсіх супольнасцяў Малых Сясцёр Ісуса, а не толькі для зарыентаваных пераважна на адасабленне адарацыйных супольнасцяў.

Сёння Кангрэгацыя Малых Сясцёр Ісуса налічвае 1400 сясцёр з 64 краінаў свету. У яе складзе ёсць Усходне-Еўрапейская секцыя, якая працуе і ў краінах былога камуністычнага рэжыму.





Заснавальніца Кангрэгацыі і яе першая протаігумення сястра Магдалена асабіста аб'ездзіла амаль што ўвесь свет. Некалькі разоў была за «жалезнаю заслонаю». І паўсюль пасля яе візітаў паўставалі супольнасці Малых Сясцёр.

У былым Савецкім Саюзе яна была 18 разоў. Да тых, хто асабліва прыгнечаны і абяздолены, яна адчувала асаблівую любоў. У 1974 годзе супольнасць Малых Сясцёр Ісуса была створана ў Маскве. Апошні візіт сястры Магдалены ў СССР адбыўся ў 1989 годзе. У Беларусі яна ні разу не была і, магчыма, таму ў нас пакуль няма супольнасці Малых Сясцёр Ісуса. Найбліжэйшае месца, дзе жывуць і працуюць сёстры з Кангрэгацыі Малых Сясцёр Ісуса,— уніяцкая парафія ў Кастамлотах (15 км ад Берасця) у Польшчы.

Генеральны дом Кангрэгацыі Малых Сясцёр з 1964 году месціцца ў Рыме. Будавалі яго самі сёстры на працягу двух гадоў. Кожныя пяць гадоў тут адбываюцца генеральныя капітулы Кангрэгацыі. У Рыме стала жыве генеральная сястра-ігумення. Сёння гэтыя абавязкі выконвае сястра Айрыс-Мэры (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка), абраная сёстрамі ў 1987 годзе.

Сястра Магдалена — адзіная, хто з 1989 году ў кляштары ўвесь час: яна пахавана ў адным з гротаў гары, на схілах якой маляўніча раскіданы маленькія ўтульныя хаткі сясцёр. Свой тэстамэнт Малым Сёстрам яна напісала яшчэ ў 1945 годзе. Ужо тады яна спасцігла, зразумела і сказала ўсё, што павінна была сказаць людзям. Усё далейшае яе жыццё было канкрэтнай працай дзеля ўвасаблення свайго ўнікальнага духоўнага вопыту, падараванага ёй Богам.

«Ён (Хрыстос) даў нам здольнасць быць слугамі Новага Запавету, не літары, але Духа, бо літара забівае, а Дух творыць жыццё» *(2 Кар 3, 6)*. Гэтыя словы апостала Паўла цалкам могуць быць аднесеныя да маладой Кангрэгацыі Малых Сясцёр Ісуса.

**Вольга Граськова**

*г.Берасце*

# Сустрэча кіраўнікоў усходне-каталіцкіх семінарыяў Еўропы

***З 27 чэрвеня па 4 ліпеня ў Львове праходзіла сустрэча-семінар рэктараў, прэфектаў і духаўнікоў Усходніх семінарыяў Еўропы. Такія сустрэчы штогод ладзіць Кангрэгацыя Усходніх Цэркваў.***

Семінар быў прысвечаны разгляду асноваў духоўнага жыцця ў кантэксце Святога Пісання і навукі Айцоў Царквы, выхаванню будучага святара і праблеме аўтэнтычнасці святарскага паклікання. У ім бралі ўдзел больш за 100 рэктараў, прэфектаў і духаўнікоў еўрапейскіх духоўных семінарыяў. Сярод удзельнікаў семінару быў таксама прадстаўнік Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы а. Ігар Кандрацьеў, які з'яўляецца Прэфектам для семінарыстаў нашай Царквы. Перад удзельнікамі семінару выступілі: кардынал Ахілес Сільвестрыні, біскуп-памочнік УГКЦ Любамір Гузар, рэктар Румынскай Папскай Калегіі а. Аліўе Ракез, рэктар Папскай Калегіі «Русікум» а. Рычард Чэмус, кансультант пры Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў а. Мішэль Ван Парыс, с. Марына Стрэмфелі з Цэнтру «Aletti» і інш.

З нагоды сустрэчы ў Львове ў галоўных грэка-каталіцкіх храмах адпраўляліся набажэнствы на розных мовах: старaславянскай, румынскай, вянгерскай, славацкай і грэцкай. Для ўдзельнікаў сустрэчы было арганізавана наведванне Уніўскага манастыра студыцкага ўставу, манастыра св. Ануфрыя айцоў-базыльянаў у Львове, а таксама манастыра айцоў-рэдэмптарыстаў. Госці пабывалі ў Інстытуце Гісторыі Царквы, Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі, дзе адбываліся ўрачыстасці з нагоды ўручэння дыпломаў першым выпускнікам гэтай духоўнай установы, а таксама пазнаёміліся з умовамі навучання ў акадэміі. Дарэчы, у 2005 годзе, нягледзячы на сённяшнія цяжкасці, плануецца структурная трансфармацыя гэтай установы ва Украінскі Каталіцкі Універсітэт. Стварэнне ўсходне-каталіцкага ўніверсітэту ў Еўропе з'яўляецца вельмі актуальнай задачай, бо на сёння ў духоўных навучальных установах Еўропы існуюць толькі факультэты ўсходняга багаслоўя.

# Абрад — вялікі скарб нашай Царквы

*Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква з'яўляецца складовай часткай Сусветнай Царквы, аб'яднанай вакол катэдры св. Пятра. Як і кожная ўсходняя Царква, наша Царква мае свае права, ерархію (на жаль, з гістарычных прычынаў, цяпер ерархія не ёсць поўная, бо БГКЦ знаходзіцца ў стане адраджэння), свой абрад.*

*Абрад прыйшоў на нашую зямлю з Візантыі і, сутыкнуўшыся з усходнеславянскай, а пазней беларускай культурай, стварыў пэўныя вонкавыя формы, застаўшыся нязменным у сваёй сутнасці. Візантыйскі абрад глыбока закаранёны ў нашым народзе. Ён меў і да гэтага часу мае вялікі ўплыў на нашую культуру, мову. Трэба заўважыць, што Апостальскі Пасад заўсёды выступаў супраць змены чалавекам свайго абраду (адной з галоўных умоваў Берасцейскай Уніі было захаванне ўсходняга абраду).Рымскія папы заўсёды падкрэслівалі ў сваіх лістах і дакументах, што трэба зберагаць чысціню ўсходняга абраду і прытрымлівацца найстарэйшых літургічных тэкстаў. Бо абрад выступае як аснова, на якой сфармавалася ментальнасць, свядомасць народу. Можна смела сказаць, што менавіта нашаму абраду можам заўдзячыць за тое, што мы ёсць тымі, кім мы ёсць. Абрад — гэта вялікі скарб нашай Царквы, які мы павінны берагчы, любіць, ведаць і разумець, бо ў адваротным выпадку не зможам у паўнаце ўспрымаць Божае Адкрыццё, навуку Хрыста, атрымліваць Божыя ласкі, якія дае нам Госпад праз Сваю Царкву.*

*Каб лепей зразумець важнасць абраду і захавання ягонай чысціні, разгледзім становішча ў нашай Царкве і ва Украінскай Грэка-Каталіцкай Царкве, з якой нас шмат што яднае.*

*На пачатку існавання Уніяцкай Царквы ў Рэчы Паспалітай абрад захоўваўся, адначасова развівалася царкоўнае мастацтва, архітэктура, беларуская мова паступова ўваходзіла ў жыццё Царквы, але палітычныя змены ў краіне адбіваліся і на становішчы ў Царкве, прычым, не заўсёды станоўча. Лацінізацыя не была арганічным працэсам унутры Царквы, а служыла мэтам адарвання народу ад сваіх каранёў, паланізацыі. Варта нагадаць, што ў тыя часы, калі адбывалася лацінізацыя Уніяцкай Царквы, беларуская мова была забаронена для афіцыйнага ўжывання.*

*У 1839 годзе Уніяцкая Царква на тэрыторыі Беларусі была ліквідаваная, на тэрыторыі ж Заходняй Украіны (Галічыны), якая апынулася ў складзе Аўстра-Венгрыі, яна працягвала існаваць і надалей.*

*Лацінізацыя Царквы на Украіне не зайшла так далёка, як у Беларусі, што ў немалой ступені звязана з большым пашырэннем у Беларусі закону базыльянаў. Тым не менш, у XIX стагоддзі ва ўкраінскай Царкве пачынаецца рух за ачышчэнне абраду ад лацінізмаў. Найбольш гэты працэс актывізаваўся, калі мітрапалітам Галіцкім стаў Андрэй Шаптыцкі. Ён першы сярод усіх пабачыў, што Грэка-Каталіцкая Царква з такім літургічна-абрадавым абліччам не можа спрычыніцца да рэалізацыі ідэі аб'яднання Царквы Хрыстовай на Усходзе. Ён спрыяў вяртанню даўніх традыцыяў, аднавіў старажытны закон манахаў студыцкага ўставу ды загадаў ім трымацца ў багаслужэннях даўніх абрадавых формаў. Але вёў ён гэтую справу вельмі ўважна і асцярожна, каб не параніць душы вернікаў, несвядомых у абрадавых пытаннях, бо новаўвядзенні ўжо засвоіліся ў народзе.*

*На пачатку XX стагоддзя пачынаецца адраджэнне Уніяцкай Царквы ў Беларусі (пры немалой дапамозе ўладыкі Андрэя). Той абрад, які быў у Праваслаўнай Царкве, да якой належала большасць беларусаў, цалкам захоўваўся, што вельмі дапамагала ў працы сярод людзей. Вынікам сталі некалькі дзясяткаў парафіяў, што паўсталі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, утварэнне Беларускага Экзархату. На жаль, пасля вайны, адроджаная Царква была зноў ліквідаваная.*

*У 1946 годзе была ліквідаваная і Украінская Грэка-Каталіцкая Царква, але яна засталася існаваць у падполлі на Украіне і ў вольным свеце, дзе жыло шмат украінцаў. Існаванне ў падполлі адмоўна адбілася на абрадзе, бо цяжка было ў тых умовах захаваць літургічную структуру ў адзінстве. Таму, калі на пачатку 90-х гадоў УГКЦ выйшла з падполля, паўстала складаная задача ўнармаваць літургічнае жыццё ў Царкве.*

*Тут хацелася б прывесці ўрывак з кнігі айца доктара Юрыя Фэдорыва «Абрады ўкраінскай Царквы»: «Блаславенне чашай са Святымі Дарамі прысутных у царкве належыць да найвелічнейшых момантаў св. Літургіі. Гэтае блаславенне мае адпаведную падрыхтоўку і адпаведнае месца ў Літургіі, чаго не мае лацінская Царква. Рыма-католікі з захапленнем і сумам глядзелі на той велічны момант ва Усходняй Царкве, жадаючы неяк скарыстаць яго ў лацінскай св. Літургіі. Калі гэта ніяк нельга было зрабіць, яны запазычылі гэты момант блаславення Святымі Дарамі ва Усходняй Царквы і стварылі ў сябе зусім асобнае, нічым не аформленае і не абгрунтаванае «багаслужэнне» з блаславеннямі Святымі Дарамі. [...]*

*Наша Царква, якая знаходзілася доўгія стагоддзі пад уплывам лацінскай, разам з вялікай колькасцю лацінскіх формаў багаслужэнняў пераняла і сваё роднае, аднак пазбаўленае малітоўных асноваў і малітоўнага абрамлення, тое блаславенне, якое так дастойна і велічна выходзіла з цэласці Боскай Літургіі. [...] Яно ніяк не прыраўноўваецца да таго ж моманту блаславення, якое мае сваю прагматычную аснову ў Літургіі.*

*Але не толькі «блаславенне» некаторыя нашыя колы пераняли, не ўсвядоміўшы таго, што яны калечаць і ранядь тысячагадовы культ нашай Царквы. [...] Тым часам нашыя, непараўнальныя па глыбіне зместу формы багаслужэнні паступова забываюцца. Нашыя малебны на розныя патрэбы поўныя глыбокага зместу і формы, амаль забытыя. Нашыя Акафісты, незвычайнага харства выразу і формы, застаюцца як гістарычны помнік, хоць яны калісь адпраўляліся ў нашых цэрквах. Занядбаныя таксама адныя з лепшых служба́ў, Вячэрні, Ютрані і іншыя багаслужэнні, поўныя прыгажосці і сімволікі».*

*Шматлікія лацінскія запазычанні за дзесяцігоддзі так укараніліся сярод людзей (напрыклад, Крыжовая дарога, Святая Гадзіна і г.д.), што сталі традыцыяй украінскай Царквы і змяніць гэта ўжо амаль немагчыма. Ёсць прыхільнікі захавання ў непарушнасці цяперашняга стану абраду і прыхільнікі ачышчэння ад запазычанняў. Ёсць цэрквы зусім без іканастасу (пераважна ў базыльянскіх манастырах) і з поўным пяціярусным іканастасам і г.д. Відавочна адно, нельга радыкальна нешта змяняць, патрэбная разумная, старанная праца не аднаго году, каб змены не выклікалі расколу ў Царкве.*

*Нашая Царква знаходзіцца ў стане адраджэння, у адрозненне ад Украіны, традыцыя ў нас была перарваная, але ёсць у гэтым і свае пазітыўныя моманты. Мы маем цудоўную магчымасць адрадзіць нашую Царкву з яе прыгожым, глыбоказмястоўным абрадам, не робячы даўніх памылак і памылак нашых суседзяў. Мы павінны ў непарушнасці перадаць нашым нашчадкам вялікі скарб нашай Царквы — яе ўсходні абрад.*

**Аляксандр Трафіменка**

*г.Менск*






Не так даўно ў Пінску здарыўся дзікунскі выпадак. Пасярод белага дня, на вачах у шматлікіх пінчукоў, міліцыянты збілі жанчыну.

У раёне аднаго з пінскіх рынкаў нашыя «ахоўнікі» парадку рабілі аблаву на тых, хто незаконна гандлюе прадуктамі харчавання: салам, ягадамі, грыбамі і інш. Хапалі, відавочна, па нейкіх дзіўных прыкметах, бо гераіня майго аповеду, наадварот,— набыла чарніцы і несла іх у пакеце ў руцэ. Яе затрымалі і запіхалі ў міліцэйскі «козлік». Надвор'е ўсталявалася спякотнае, і ў машыне была невыносная гарачыня. Жанчыне зрабілася млосна, і яна папрасілася выйсці. Але міліцыянт не дазволіў ёй гэтага зрабіць. Адчуваючы, што хутка страціць прытомнасць, жанчына паспрабавала выйсці без дазволу...

Білі жорстка і прафесійна. Білі амаль непрытомную, ні ў чым не вінаватую жанчыну. Білі — міліцыянты, мужчыны...

У апошнія часы ўсё часцей і часцей я задаю сабе пытанні: што адбываецца з усімі намі? Чаму ў нашым грамадстве пануе жорсткасць, хамства, уседазволенасць і беспакаранасць? У чым карані такой з'явы?

Безумоўна, можна знайсці шмат тлумачэнняў гэтаму: цяжкае эканамічнае становішча, неабмежаваныя ўладныя паўнамоцтвы, недасканаласць законаў, так званае «тэлефоннае права», кругавая парука, хамства, узведзенае ў ранг дзяржаўнай палітыкі, і гэтак далей, і гэтак далей. Але існуе яшчэ адзін бок праблемы — духоўны.

Дзесяцігоддзямі нас атручвалі атэізмам і рознымі тэорыямі паходжання чалавека ад малпы. Прывівалі любоў «к партии и правительству, к великому Советскому Союзу». Прымушалі вывучаць гісторыю КПСС замест Біблії. І ў рэшце рэшт, напрыканцы дваццатага стагоддзя, на тэрыторыі нашай Беларусі выпладзілі новую пароду малпы з чалавечым тварам. Як кажуць, без Бога ў душы і розуму ў галаве. Гэтай істотай на працягу ўсяго ейнага жыцця кіруюць адно інстынкты ды рэфлексы. Ёй заўсёды бракуе часу на тое, каб спыніцца, азірнуцца на свае ўчынкі і задумацца над імі. Каб адказаць сабе, прынамсі, на адно пытанне: чаму так, а не інакш?

А між іншым, яны, бывае, нават у царкву заходзяць. Часцей за ўсё, у праваслаўную. Адзін-два разы ў год. На Раство і Вялікдзень. І называюць сябе пры гэтым праваслаўнымі атэістамі: «Очэнь модна сіводня ў цэрковь хадзіць!» Здараецца, асобныя нават да Святога Прычасця падыходзяць...

Толькі ўсё гэта дарма — выйшаўшы за сцены храму, нават ад той малой кроплі духоўнасці не застаецца і следу. Я не маю на мэце пакрыўдзіць гэтымі словамі сапраўдных праваслаўных вернікаў, шчырых хрысціянаў. Але праблема існуе, і ігнараваць яе нельга. Бо калі хоць бы аднойчы ў галаве таго ж самага міліцыянта ўзнікла думка, што за свае дзеянні ён адказвае не толькі перад начальствам, законам, уласным сумленнем, але і перад Богам,— наўрад ці ён стаў бы зневажаць гонар чалавека, калаціць усіх, хто пападзе, і без усялякае прычыны.

**Наталля Асмалоўская**

*г.Пінск*

**«Катэдральны пляц»** — гэта месца ў «Царкве», якое мы спецыяльна адводзім для вашых допісаў, каб вы маглі задаць пытанні, выказаць вашыя погляды і меркаванні на праблемы Царквы і веры ў нашым грамадстве. Пішыце пра тое, што вас хвалюе, непакоіць.



*Паважаны галоўны рэдактар газеты «Царква»!*

*Маё імя Ларыса Усеваладаўна Пешкава. Я нарадзілася ў 1934 годзе ў г.Харбіне ў сям'і эмігрантаў, вучылася ў каледжы святой Урсулы каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Маньчжурыі. З 1955 году жыву ў Маскве. Апошнім часам займаюся зборам матэрыялаў пра лёс удзельнікаў гэтай місіі — архімандрыта Фабіяна Абрантовіча, які загінуў у ГУЛАГу (у Бутырскай турме ў Маскве) у 1946 годзе і архімандрыта Андрэя Цікоты — загінуў у АзёрЛАГу (участак Брацк — Тайшэт) у лютым 1958 году. Айца Андрэя Цікоту я ведала асабіста.*

*Калі лёс астатніх удзельнікаў місіі больш менш вядомы, то ў гісторыі гэтых двух людзей шмат прабелаў. Але справа не ў гэтым. Амаль усе ўдзельнікі Харбінскай місіі належалі да закону Айцоў Марыянаў і паходзілі з манастыра ў Друі. Ці існуе ён цяпер?*

*Я шукаю адрас і імя Генерала ці іншага прадстаўніка закону Марыянаў у Беларусі (Расеі), каму я магла б перадаць усе сабраныя мною матэрыялы для архіву, музея, для гісторыі — у памяць пра бязвінна загінулых маіх выхавацелях і настаўніках.*

*Калі ў рэдакцыі ёсць газета «Свет Евангелия», то ў №2-3 за 17.01.1999 ёсць надрукаваны мой артыкул «Харбин — русский и католический» — там усе падзеі выкладзены больш падрабязна.*

*Вашыя каардынаты мне даў В.Хруль, рэдакатар газеты «Свет Евангелия». Яшчэ ў мяне запісана імя айцец Марк Жук — марыянін, але дзе яго шукаць дык зусім невядома. Прашу Вас дапамагчы і адказаць на мой ліст. Гэта тым больш важна, бо я ведаю, цяпер польскія ксяндзы-марыяне хадайнічаюць аб залічэнні архімандрытаў Абрантовіча і Цікоты ў спіс блаславёных.*

*Загадзя дзякую Вам. Будзьце здаровы. Барані Вас Бог.*

**Ларыса Пешкава**

*г.Масква, Расея*

**Ад рэдакцыі:**

*Шаноўная сп-ня Ларыса Пешкава! Для нашай Царквы вельмі каштоўнымі ёсць сабраныя Вамі матэрыялы і сведчанні пра айцоў марыянаў усходняга абраду! Копію Вашага ліста мы перадалі марыяніну архімандрыту Сяргею Гаеку, нашаму Апостальскаму візітатару. Матэрыялы для архіву Вы можаце пераслаць на адрас «Царквы» ці непасрэдна а. С.Гаеку, які абяцаў звязацца з Вамі асабіста.*

***Будзем удзячныя ўсім нашым чытачам за дасланыя дакументы, фотаздымкі, лісты, сведчанні, успаміны і інш. матэрыялы (можна копіі) пра жыццё ўніяцкіх парафіяў і ўнійны рух у міжваенны і, асабліва, паваенны час. Магчыма, такія матэрыялы ёсць у вашых сваякоў ці знаёмых? Гэтыя сведчанні не павінны знікнуць — нам трэба захаваць іх для гісторыі!***



*Слава Ісусу Хрысту!*

*Шаноўны рэдактар газеты «Царква»!*

*У сучасным свеце цяжка недаацэньваць тыя інфармацыйныя магчымасці, якія дае глабальная кампутарная сетка Intemet і электронная пошта «e-mail». Пры іх дапамозе мільёны людзей на цэлым свеце знаходзяць новых сяброў, абменьваюцца думкамі, атрымліваюць інфармацыю і навіны. Думаю, што не трэба пераконваць нікога, што магчымасці гэтых магутных СМІ павінны выкарыстаць, ды, дарэчы, яны актыўна выкарыстоўваюцца хрысціянамі ва ўсім свеце, у тым ліку і ў Беларусі. Пакуль што няма тэхнічных і матэрыяльных сродкаў для таго, каб газета «Царква» адкрыла сваю старонку ў World Wide Web, але з часам гэта (маю надзею) здзейсніцца. Але ўжо цяпер ёсць магчымасць карыстацца з e-mail-скрынкі.*

*Я вырашыў выйсці з гэтай ініцыятывай і таму заклаў такую скрынку на каталіцкім сэрверы* ***«Catholic On-line»****, які знаходзіцца пад адрасам* ***http://www.catholic.org****. Скрынка газеты «Царква» мае адрас:* ***carkva @ catholic.org.***

*Калі вас зацікавіла мая прапанова, я гатовы абслугоўваць яе. Усе лісты, якія будуць прыходзіць на e-mail «Царквы», я буду перадаваць у Берасце, а калі і ў вашай рэдакцыі з'явіцца Internet acces, то вы самі зможаце яе абслугоўваць.*

**Кірыла Невяроўскі**

*г.Люблін, Польшча*

**Ад рэдакцыі:**

*З задавальненнем прымаем прапанову клірыка нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы і звяртаем на яе ўвагу ўсіх нашых чытачоў. Магчыма, гэта зацікавіць і вашых сяброў-кампутаршчыкаў?*



10.06.1999. Беларускія грэка-каталікі на вуліцах г.Седльцы

# Дакрананне да краю вопраткі

Працяг, пачатак на стар.6

...Святая Імша скончылася, і мы вярталіся да аўтобусаў, але ззаду яшчэ доўга чуліся радасныя спевы і воклічы. У гэты момант маё сэрца перапоўнілася вялікай і шчырай любоўю да Госпада Бога, да Яго Царквы, да Святога Айца і да ўсіх людзей у свеце. Я дзякаваў Ісусу Хрысту за такога Папу і за тое, што Бог дазволіў маліцца разам са Святым Айцом. Калі адзін паляк сказаў нам: «Бывайце, браты з Беларусі!» — я зразумеў, што сапраўды аб'ядноўвае славянаў, і не толькі славянаў, але і ўвесь свет: магчымасць славіць Хрыста і Яго Найсвяцейшую Маці...

...Па дарозе дамоў мы наведалі ўніяцкую парафію ў вёсцы Кастамлоты. Там нас гасцінна сустрэлі і далі адпачыць. Айцец архімандрыт Раман Пентка, які шмат зрабіў для ўшанавання пратулінскіх мучанікаў, коратка распавёў нам пра гісторыю кастамлоцкай царквы. Нам вельмі спадабалася з якой любоўю і шчырасцю ён гаварыў.

...Мы вярнуліся дадому, але памяць пра гэтую пілігрымку застанецца на ўсё жыццё.

**Лявонці Маліноўскі**
*вучань 9 класу, г.Баранавічы*

**Паола Вагнэр**

# Тата, а дзе жыве Бог?

### 13. ТАТА, А ДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА МАЯ ДУША?

Ты можаш сказаць, дзе ў цябе сэрца, можаш адчуць, як яно б'ецца. Можаш сказаць, дзе ў цябе страўнік, плечы, каленкі. Усё гэта з мяса і косці, карацей — з матэрыі. Але душа — гэта нешта зусім іншае, душа не матэрыяльная. Таму сваю душу ты не можаш бачыць. Яе нельга намацаць, таму нельга сказаць, дзе яна і як выглядае.

Але менавіта таму, што яна не матэрыяльная, яна не можа ператварыцца ў прах, што станецца пасля смерці з нашым целам. Душа — гэта тое, чым жывем пасля, калі нашае цела памірае.

Цалкам ад цябе залежыць, як твая душа будзе развівацца. Душа чалавека, які да іншых ставіцца добра і імкнецца дапамагаць ім, каб жылі лепей, проста свеціцца духоўнай прыгажосцю. Той, які наадварот, да іншых злы, мае душу хворую. І вось, бачыш, хворую душу нельга аздаравіць ні з дапамогай хірургічнай аперацыі, ані з дапамогай таблетак. Затое дакладна дапамагае літасць, малітва, Споведзь і Святое Прычасце. Хрысціяне вераць, што для душы найлепей, калі чалавек жыве так, як нас навучае Госпад наш Ісус Хрыстос.

### 14. ТАТА, А ДЗЕ Я БЫЛА ПЕРАД ТЫМ, ЯК НАРАДЗІЛАСЯ?

Перад тым, як нарадзіцца, ты была зусім маленечкае дзіцятка, якое расло ў маме, глыбока ў жывоціку.

Спачатку ты была маленькая, як макавае зярнятка. Пазней у цябе пачала расці галоўка, ручкі, ножкі, цела, але вочкі ў цябе яшчэ былі заплюшчаныя. Ты плавала ў вадзічцы, і табе было цёпла і ўтульна ў маміным жывоціку. Так бывае з усімі дзецьмі. Ты ела праз пупавінку — такую трубачку, праз якую ты даставала проста ад мамы ўсё, што трэба дзіцёнку для жыцця, таму ты ўвогуле не павінна была адкрываць роцік.

Пасля дзевяці месяцаў ты стала такой вялікай, што табе ў маміным жывоціку амаль не хапала месца — і ты нарадзілася.

У той момант, калі ты пачала расці ў маміным жывоціку, Бог цябе ўжо любіў. Хацеў, каб ты нарадзілася, і дараваў табе жыццё. Таму ты належыш не толькі маме і мне — перад усім ты належыш Богу.

(Працяг будзе, пачатак у № 16-21)

*Пераклаў з чэшскай*
**а. Андрэй Абламейка**
*г.Менск*



# Маліто́ўны гурток

Я прашу памаліцца за ____________________

____________________

____________________

Ахвярую Госпаду ____________________

Маё прозвішча, імя, адрас ____________________

____________________

Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 3 (22). 1999

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдавец:** Берасцейская грэка-каталіцкая парафія святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** святар Ігар Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 10 верасня 1999 году, а 6-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасв. № 836), вул.Чкалава, 14, г.Менск. **Замова № 25.**
**Аб'ём** — 2,0 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 2000 асобнікаў.

Наш разліковы рахунак № 3015200210017 у Берасцейскім філіяле № 2 КБ "Абсалютбанк", МФО 150501242

*Газета выдаецца на ахвяраванні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*